Гродна
№23 (505),
16 снежня 2018
www.slowo.grodnensis.by

# Слова Жыцця

ГАЗЕТА ГРОДЗЕНСКАЙ ДЫЯЦЭЗІІ



# БОГ НАРАДЖАЕЦЦА ДЛЯ КОЖНАГА



Божае Нараджэнне лічыцца найбольш сямейным святам. У вігілійны вечар блізкія і далёкія родныя сустракаюцца за сталом, ламаюцца аплаткай і складаюць адзін аднаму найлепшыя пажаданні. Аднак не ўсе могуць разлічваць на некалькі хвілін, праведзеных у гэтыя асаблівыя дні ў коле сям'і.

працяг на с. 3

# 100 ГАДОЎ У ГРОДНЕ



Многія жыхары Гродзеншчыны, напэўна, не аднойчы чулі пра існаванне арганізацыі "Польская мацеж школьная". У большасці яе назва атаясамліваецца з адукацыйнай пляцоўкай, дзе можна вывучаць польскую мову. Аднак не ўсе ведаюць, што задачай Мацежы з'яўляецца таксама пашырэнне каталіцкіх традыцый.

працяг на с. 4

"Адвэнт нагадвае падарожжа з Богам, якое ніколі не заканчваецца". Папа Францішак




### III НЯДЗЕЛЯ АДВЭНТУ
**Лк 3, 10–18**

Калі Ян навучаў над Ярданам, пыталіся ў яго людзі: “Што мы павінны рабіць?”. Ён сказаў ім у адказ: “Хто мае дзве вопраткі, няхай аддасць таму, хто не мае; і хто мае ежу, няхай зробіць тое самае”. Прыйшлі і мытнікі хрысціцца і сказалі яму: “Настаўнік! Што мы павінны рабіць?”. Ён адказаў ім: “Нічога, што больш за дазволенае вам, не патрабуйце”. Пыталіся ў яго таксама і жаўнеры, кажучы: “А мы што павінны рабіць?”. Ён адказаў ім: “Нікога не крыўдзіце, не абвінавачвайце несправядліва і задавольвайцеся сваёю платаю”. Калі ж народ чакаў, і калі ўсе разважалі ў сэрцах сваіх пра Яна, ці не Хрыстос ён, Ян адказаў усім: “Я хрышчу вас вадою, але ідзе мацнейшы за мяне, якому я не варты развязаць раменьчык на сандалях Яго. Ён будзе хрысціць вас Святым Духам і агнём. Лапата Ягоная ў руцэ Ягонай, і Ён ачысціць гумно сваё і збярэ пшаніцу ў свіран свой, а мякіну спаліць агнём непагасным”. Шмат чаго іншага прапаведаваў ён, абвяшчаючы Добрую Навіну народу.

### ЖАДАННЕ ВЫПРАВІЦЦА

Жыхары Юдэі і Іерусаліма не былі задаволены ўласным жыццём. Жадаючы гэта выправіць, наблізіцца да Бога, пастанавілі звярнуцца да Яна Хрысціцеля, які навучаў над Ярданам, з пытаннем: “Што мы павінны рабіць?”. Прарок наказвае ім весці сумленнае жыццё, успрымаць людзей як братоў і сясцёр, перастаць выкарыстоўваць і падманваць іншых.

Ян Хрысціцель не патрабуе рабіць вялікія, незвычайныя, геройчныя ўчынкі. Не патрабуе гэтага і Хрыстос. Ён прагне толькі, каб мы сумленна і годна рэалізавалі сваё пакліканне, пазбягаючы грахоў, імкнучыся ўзрастаць у любові да Бога і бліжніх.

Праз перажыванне сёлетняга Адвэнту, падобна жыхарам Юдэі і Іерусаліма, павінны абудзіць у сабе тое вялікае жаданне змен ва ўласным жыцці. Трэба добра падрыхтаваць сэрца да прыходу Хрыста, каб Ён мог у ім з радасцю пасяліцца.

**Пане, адкрый мне вочы, каб заўважыў тое, што ў жыцці патрабуе выпраўлення, асвяці розум, каб зразумеў, як маю гэта зрабіць, адары моцай і стойкасцю, каб вытрываў у сваёй пастанове.**

### IV НЯДЗЕЛЯ АДВЭНТУ
**Лк 1, 39–45**

Сабраўшыся, Марыя ў тыя дні паспяшыла ў горную краіну, у горад Юды. І ўвайшла ў дом Захарыі, і прывітала Альжбету. Калі Альжбета пачула прывітанне Марыі, узварухнулася дзіцятка ва ўлонні яе, і напоўнілася Альжбета Святым Духам. І ўсклікнула моцным голасам, і сказала: “Бласлаўлёная Ты між жанчынамі, і бласлаўлёны плод улоння Твайго! І адкуль мне гэта, што Маці Пана майго прыйшла да мяне? Бо калі голас прывітання Твайго загучаў у вушах маіх, узварухнулася ад радасці дзіцятка ва ўлонні маім. І шчаслівая тая, якая паверыла, што споўніцца сказанае Ёй Панам”.

### АДКАЗ НА ДАРЫ

Час Адвэнту – гэта не толькі перыяд чакання прыходу Хрыста, але і час падрыхтоўкі. Найлепшым прыкладам гэтага з’яўляецца Марыя, якую Бог у сваіх спрадвечных планах выбраў Мамай для свайго Сына, каб Езус стаў адным з нас, атрымліваючы чалавечую натуру. Пачынаючы з хвіліны Звеставання, Найсвяцейшая Маці не толькі поўнасцю аддала сябе ў распараджэнне Богу, але і супрацоўнічала з Ім усёй сваёй сутнасцю, з удзячнасцю прыняла ўсе дары ад Стварыцеля.

Кожны з нас таксама атрымаў ад Усемагутнага мноства ласкаў: жыццё, свабоду, таленты, веру, сяброў і блізкіх... Давайце дзякаваць Богу за ўсе дары і штодня адказваць на іх прыгожым жыццём і добрымі ўчынкамі, каб заслужыць найбольшы дар – вечнае жыццё ў Небе.

**Пане, навучы бачыць дабро, якім Ты мяне адорваеш. Зрабі маё сэрца высакародным, бескарыслівым, каб умеў дзяліцца гэтым дабром з іншымі, такім чынам пашыраючы на зямлі Тваё Валадарства і Тваю ласкавасць.**

*Кс. Юрый Марціновіч*

**Слова рэдактара**


*Кс. Юрый Марціновіч*

# Усё бліжэй да Таямніцы

*Напярэдадні свят Божага Нараджэння сённяшні свет неаднаразова падкрэслівае чароўнасць, цеплыню надыходзячых дзён, разам з тым прапануючы чарговыя варыянты для ўпрыгожвання дамоў, елак, вітрын магазінаў. Па тэлебачанні ці радыё вяшчаюць пра новыя прадукты, без якіх “не можа абысціся ні адно свята”, часта забываючыся пра ўбогія яслі.*

Ва ўсёй мітусні падрыхтоўкі мы можам згубіць цішыню і спакой, а неаднойчы таксама тое, што на самой справе з’яўляецца важным. У пагоні за святочнай ілюзіяй павінны хоць на хвілінку затрымацца, каб скіраваць думкі да таямніцы Бэтлеемскай ночы.

Удалечыні ад шуму і мітусні свету, у адзінокай цішыні прыходзіць на зямлю Збаўца ўсіх людзей. Не прагне фанфар і паднашэнняў ад магутных, бо Яго акружаюць анёлы, любячыя Бога за Яго бясконцую любоў. Не патрабуе ўспышак фотакамер і шуміхі, бо паклон Яму складаюць убогія пастухі, якія ў сваіх простых, поўных даверу сэрцах прынялі Добрую Навіну. Не чакае ніякіх каштоўных дароў, бо перад Ім становяцца на калені Тры Каралі, ахвяруючы золата, ладан і смірну. Езус, які прыйшоў на свет безабаронным Немаўляткам, хоча толькі аднаго “падарунка” – нашых сэрцаў. Ён прыйшоў не ў хлеў і не ў свет, а менавіта ў нашыя сэрцы, часам згубленыя, самотныя, занятыя і стомленыя... Гэта ў іх Яго сапраўдны дом. Гэта там мы павінны падрыхтаваць месца Езусу, каб Божае Нараджэнне стала сапраўды часам прыняцця Пана ў сваё жыццё.

Рыхтуючыся да чарговага адзначэння ўспаміну нараджэння Збаўцы, варта “апрануцца” ў Хрыста – пераймаць Яго, служыць іншым, прабачаць адзін аднаму, шукаць супакой, згоду, праўду. Мае сэнс усклікаць днём і ноччу: “Прыйдзі, Пане Езу! Накіруй мае думкі і сэрца, раўняй мае сцежкі. Дапамажы мне не праспаць Твой прыход”. Трэба нястомна чакаць Збаўцу, які стукаецца ў нашыя дзверы і гаворыць: “Калі хто пачуе Мой голас і адчыніць дзверы, увайду да яго і буду вячэраць з ім, а ён са Мною” (Ад 3, 20).

Неабходна прасіць Найсвяцейшую Панну Марыю, якая з’яўляецца табернаклем Уцелаўлёнага Слова, і св. Юзафа, маўклівага сведку падзей збаўлення, перадаць нам сапраўдныя, аўтэнтычныя пачуцці. Яны падсілкоўваюць у чаканні нараджэння Езуса, каб маглі падрыхтавацца да набожнага адзначэння свят Божага Нараджэння ў веры і радасці, ажыўленыя жаданнем шчырага навяртання і выпраўлення.

**Дарагія Чытачы!**

Жадаю, каб чарговыя святы ўдалося перажыць з верай, па-Божаму. Няхай гэта будзе час радасці ў Пану, праслаўлення Яго і выражэння Яму ўдзячнасці, час новага нараджэння Бога ў сэрцы і свядомага прыняцця Яго ў коле сям’і і грамадства, каб прыносіць добры плён у штодзённасці.

# ПАТРОЙНАЕ ПРЫЙСЦЕ ХРЫСТА



**Тры Імшы. Тры святыні. Тры пакліканні. Такім патройным чынам можна акрэсліць духоўнасць Божага Нараджэння. Справа ў тым, што сучасная цэлебрацыя трох калядных Эўхарыстый звязана са старажытнай рымскай традыцыяй.**

Жыхары вечнага горада святкавалі Божае Нараджэнне ў трох рымскіх базіліках, працэсійна пераходзячы з адной у другую. Сярэднявечная містыка бачыць у гэтым патройны прыход Хрыста: праз Марыю, у чалавечых сэрцах, а таксама напрыканцы часоў у славе. У сучаснай жа літургіі гэтыя акцэнты адзначаюцца ў некалькіх імшальных фармулярах.

Першая св. Імша адбывалася апоўначы ў базіліцы Санта-Марыя-Маджорэ, прысвечанай мацярынству Найсвяцейшай Панны Марыі. Біскуп Рыма цэлебраваў урачыстую Эўхарыстыю ў капліцы Бэтлеемскага грота, адсюль і назва – “Імша пры яслях”. Яна была ўведзена ў другой палове V ст. на ўзор ерузалемскай начной літургіі. Хрысціяне ў Святой Зямлі святкавалі Божае Нараджэнне апоўначы ў Бэтлееме разам з працэсіяй да грота. Гэты звычай перанялі ў Рыме. Аднак тут працэсійнасць набыла сваё развіццё.

На другую св. Імшу рымляне працэсійна пераходзілі ўжо ў базіліку св. Анастасіі. Невыпадкова ва памяць гэтай мучаніцы ўрачыста адзначаецца 25 снежня. Жанчына, якая на мяжы III–IV ст. несла надзею і падтрымку хрысціянам ў вязніцы, сама за сваю веру пры Дыяклецыяне была катавана. Падобна і Езус, як узыходзячае Сятло, нясе надзею ў вязніцы людскіх сэрцаў. Нездарма другая Эўхарыстыя сімвалічна цэлебравалася тут на ўзыходзе сонца.

Нарэшце ўдзень вернікі накіроўваліся да базілікі св. Пятра. У гэтай трэцяй Эўхарыстыі рэйнская школа духоўнасці бачыць напамін аб слаўным прыйсці Хрыста Валадара напрыканцы часоў.

Самае цікавае заключаецца ў тым, што трыма прыйсцямі Хрыста святкаванне не абмяжоўваецца, бо яно ўключае таксама ўдзел і самаго верніка: у трох св. Імшах бачны водгук паклону анёлаў, пастухоў і каралёў (валхвоў). Таму вельмі важна схіліцца над кожным з гэтых біблійна-літургічных знакаў больш падрабязна, каб узбагаціцца духоўна.

Па-першае, функцыя анёла акрэсліваецца як “быць пасланнікам”. Невыпадкова першую начную цэлебрацыю называлі “Імшой анёлаў”, г. зн. на ўзор анёлаў таксама і кожны вернік пакліканы быць Божым пасланнікам. Але калі быць пасланым дастаткова проста, то стаць пастырам складаней, паколькі неабходна зрабіць вялікі шлях, доўгую працэсію духоўнага сталення, становячыся сведкам, як пастухі, і мучанікам, як св. Анастасія.

Акрамя таго, вялікай памылкай пастыра можа быць яго дэспатызм і прага ўлады. Нездарма на “Імшы пастыраў” (другая Імша) у базіліцы святой мучаніцы разам з усім імператарскім дваром прысутнічаў сам імператар, чый палац знаходзіўся пры святыні і чые папярэднікі праследавалі хрысціян. Такім чынам, недастаткова знаходзіцца пры святыні і кантраляваць парадак сваёй паствы любымі метадамі. Педагагічнасць гэтага этапу ў тым, каб навучыцца “новаму метаду”. Для гэтага неабходна прайсці наступны шлях, адлюстраваны ў працэсіі да трэцяй св. Імшы, якая называецца “Імшой каралёў”. Духоўнасць гэтага этапу вучыць таму, што значыць “служыць”. Нездарма апошняя Эўхарыстыя гістарычна цэлебравалася ў базіліцы св. Пятра, наступнікі якога называюцца “слугамі слуг”.

Такім чынам, анёльская, пастырская і каралеўская функцыі вернікаў чэрпаюць сваю духоўнасць у прыйсці Езуса Хрыста. Без Яго першага прыйсця я не быў бы пасланы (mittere, пар. Мц 10, 16), без Яго другога прыйсця ў маё сэрца – не мог бы стаць пастырам (pascere, пар. Ян 21, 15-17), а без чування (vigilare, пар. Мц 24, 42-44) перад Яго апошнім прыйсцем я не мог бы навучыцца служыць іншым. Толькі ўзаемасувязь паміж гэтымі містэрыямі дазваляе мне іх споўніць.

**P.S.** *У адрозненне ад усходу Еўропы, у Рыме “Імша пастыраў” (Пастэрка) – другая, а не першая. Гэта тлумачыцца тым, што пастырскі вопыт набываецца пасля “выслання” (анёльская функцыя), а не перад ім.*

*Кс. Раман Суша*

# ВІГІЛІЙНЫ АБРАД

**На стале, пакрытым белым абрусом, кладзём Святое Пісанне і аплатку, тавім свечкі. Адно месца пры стале застаецца вольным як знак памяці пра блізкіх, якія не могуць разам з намі прысутнічаць на Вігіліі (напрыклад, памерлыя з сям'і).**

*Вігілійная вячэра распачынаецца малітвай.*
***У імя Айца і Сына, і Святога Духа. Амэн.***

## ЗАПАЛЬВАННЕ СВЕЧКІ

*Старэйшы член сям'і запальвае свечку на стале.*
*Бацька ці маці прамаўляе:* **"Святло Хрыста!".**
*Усе адказваюць:* **"Дзякуй Богу".**

## ЧЫТАННЕ ЕВАНГЕЛЛЯ

Больш за дзве тысячы гадоў таму ў свет прыйшоў Езус Хрыстус, Сын Божы, чаканы Збаўца. Апавядае пра гэта Евангелле паводле св. Лукі.

*Тэкст чытае, напрыклад, старэйшае дзіця.*

**У тыя дні выйшаў загад ад цэзара Аўгуста зрабіць перапіс па ўсёй зямлі. Гэта быў першы перапіс падчас панавання Квірынія ў Сірыі. І пайшлі ўсе запісвацца, кожны ў свой горад. Пайшоў таксама і Юзаф з Галілеі, з горада Назарэта, у Юдэю, у горад Давіда, званы Бэтлеем, бо ён быў з дому і роду Давіда, каб запісацца з Марыяй, заручанай з ім, якая была цяжарнай. А калі яны былі там, надышоў Ёй час нарадзіць. І нарадзіла Сына свайго першароднага. І спавіла Яго, і паклала ў яслі, бо не было ім месца ў заездзе. У той ваколіцы былі на полі пастухі, якія вартавалі ўначы свой статак. Раптам з'явіўся ім анёл Пана, і хвала Пана асвяціла іх, і вялікі страх ахапіў іх. І сказаў ім анёл: "Не бойцеся, я абвяшчаю вам вялікую радасць, якая будзе для ўсяго народа, бо нарадзіўся вам сёння ў горадзе Давіда Збаўца, якім ёсць Хрыстус Пан. І вось вам знак: знойдзеце Немаўля спавітае і пакладзенае ў яслях". І раптам з'явілася з анёлам вялікае войска нябеснае, якое праслаўляла Бога і ўсклікала: "Хвала на вышынях Богу, а на зямлі спакой людзям добрай волі".**

*Пасля можна заспяваць калядку.*

## СУПОЛЬНАЯ МАЛІТВА

*Бацька ці маці прамаўляе просьбы, усе адказваюць: "Цябе просім, выслухай нас, Пане".*

Божа, наш Ойча, у гэтую ўрачыстую гадзіну праслаўляем Цябе і дзякуем за ноч, калі паслаў нам свайго Сына Езуса Хрыста, нашага Пана і Збаўцу, і просім Цябе:

• Удзялі нашай сям'і дар любові, згоды і супакою.
*Цябе просім, выслухай нас, Пане.*
• Адары нашых суседзяў, сяброў і знаёмых спакоем гэтай ночы.
*Цябе просім, выслухай нас, Пане.*
• Усіх пакінутых, самотных, хворых, бедных, галодных ва ўсім свеце суцеш і ўмацуй Добрай Навінай гэтай святой ночы.
*Цябе просім, выслухай нас, Пане.*
• Нашых памерлых *(пералічыць імёны)* адары шчасцем і святлом Тваёй хвалы.
*Цябе просім, выслухай нас, Пане.*

*Усе разам адгаворваюць малітву "Ойча наш".*

Пане Божа, Ты ўчыніў, што гэтая святая ноч заяснела бляскам сапраўднага святла Твайго Адзінароднага Сына. Учыні, каб і мы яснелі бляскам Твайго святла ў сваім штодзённым жыцці. Праз Хрыста, Пана нашага. Амэн.

## ЛАМАННЕ АПЛАТКАЙ

*Перад ламаннем аплаткай бацька ці маці прамаўляе наступныя словы.*

А цяпер у духу любові і прабачэння падзелімся аплаткай – хлебам любові. Раскрываючы свае сэрцы на ўзаемную любоў, мы адкрываем іх на прыход Пана. Няхай Ён заўсёды будзе з намі.

*Складанне адзін аднаму сардэчных пажаданняў.*

## МАЛІТВА ПАСЛЯ ВЯЧЭРЫ

Дзякуем Табе, Божа, наш добры Ойча, за Сына Твайго Езуса Хрыста. Дзякуем за любоў да ўсіх людзей, за гэты бласлаўлёны вечар і дары, якія мы спажывалі. Табе хвала на вякі. Амэн.

# БОГ НАРАДЖАЕЦЦА ДЛЯ КОЖНАГА

● працяг са с. 1

**С. Фаўстына Цыдзік,**
*дырэктар Дома міласэрнасці ў Каменцы*



*Жыхарамі нашага Дома міласэрнасці з'яўляюцца людзі, якія пасяліліся тут шмат гадоў таму. Але ёсць і тыя, хто пераступіў яго парог адносна нядаўна. Перанесеныя з роднага асяроддзя, з месца, якое было для іх цэлым светам на працягу некалькіх дзясяткаў гадоў, яны вымушаны сутыкнуцца з іншай рэчаіснасцю.*

*Са знаёмага свету гэтых людзей "вырывае" часам сур'ёзная ці прагрэсіруючая хвароба. Таму пасля паступлення сюды ім неабходна прайсці перыяд адаптацыі. Мы робім усё, каб кожны мог знайсці тут свой новы дом. Таму прагнем, каб і надыходзячыя святы Божага Нараджэння нашы падапечныя перажылі ў радаснай атмасферы, каб маглі адчуць тут цяпло, любоў, сапраўдную радасць.*

*У нашым Доме Божае Нараджэнне фактычна адзначаецца двойчы. Спачатку каталіцкае, потым праваслаўнае, таму што жывуць тут як адны, так і другія прадстаўнікі хрысціянскага веравызнання. Няма падзелаў на "вашых" і "нашых": мы шануем усіх.*

*У сувязі з тым, што ёсць шмат асоб, прыкаваных да ложка з-за зацяжной хваробы ці ўзросту, у вігілійны вечар мы разам з абслугоўваючым персаналам адпраўляемся ў кожны пакой, трымаючы ў руцэ аплатку. Тады ў вачах людзей бачым радасць і ўзрушанасць. Яны цешацца, як малыя дзеці, што хтосьці пра іх памятае. Вераць, што разам з гэтым кавалкам белага хлеба да іх прыходзіць Божае бласлаўленне. Дзеляцца ім, як найбольшай святасцю!*

**Алег Гарбачоў,**
*сацыяльна-дабрачынная ўстанова "Цэнтр дапамогі жыццю"*



*Наша спецыялізаваная профільная дабрачынная ўстанова аказвае бясплатную комплексную дапамогу і падтрымку невылечна хворым на анкалогію ў тэрмінальнай (канчатковай) стадыі захворвання, пацыентам дарослых аддзяленняў хоспіса, пацыентам спецыялізаваных аддзяленняў – бальніц сястрынскага догляду г. Гродна, Гродзенскага раёна і г. Мінска.*

*У хоспісе чакаюць Раства і рыхтуюцца да гэтага свята з асаблівым трапятаннем і любоўю. Мы разумеем, што для некаторых пацыентаў яно стане апошнім, таму прыкладаем шмат намаганняў, каб у перыяд Калядных свят прынесці ў цяжкія, часам пакутлівыя ад пераяжаванага болю будні хворых людзей святло радаснай весткі пра Божую любоў.*

*Сёлета мы ўпрыгожылі елкі, павесілі гірлянды, аздобілі вокны выцінанкамі з каляднымі матывамі, усталявалі шопкі – адным словам, стварылі атмасферу свята. Усе аддзяленні зіхацяць – пацыенты ў захапленні! Важна падкрэсліць, што перад святам Божага Нараджэння традыцыйна не толькі ўпрыгожваем аддзяленні хоспісаў, але таксама дбаем пра цела і душу пацыентаў. Нашы валанцёры праводзяць гігіенічныя працэдуры, а каталіцкі і праваслаўны святары наведваюць хворых, праводзяць з імі духоўныя гутаркі, рыхтуюць да споведзі і св. Камуніі.*

*Сама Вігілія праходзіць у імправізаваным зімовым садзе, дзе збіраюцца пацыенты, а таксама іх родныя. Спачатку запальваем свечкі, уключаем рэлігійную музыку, затым молімся і дзелімся аплаткай. На жаль, у нас няма магчымасці прыгатаваць традыцыйныя вігілійныя стравы, таму што знаходзімся ў крыху "палявых умовах", але нягледзячы на гэта наш святочны стол не пустуе.*

*Хутка пачнём абезд нашых падапечных з падарункамі. Хочам паспець да Раства павіншаваць кожнага: тых, хто знаходзіцца ў стацыянарах, і тых, кім апекуемся дома. Яшчэ ў нашых планах ёсць калядныя канцэртныя праграмы, з якімі ў хоспіс завітаюць парафіяльныя гурты.*

*Цешымся, што нашы падапечныя маюць магчымасць перажываць Раства ў супольнасці, што нам удаецца ствараць радасную, па-сямейнаму цёплую і душэўную атмасферу свята. Стараемся яе захаваць: падчас вігілійнай сустрэчы нашы валанцёры робяць шмат фотаздымкаў, якія мы пасля высылаем родным на памяць.*

**Кс. Андрэй Ганчар,**
*душпастыр вязняў*

*Я вельмі ўдзячны Пану Богу, што даў мне магчымасць служыць зняволеным. Апекуюся вязнямі, якія адбываюць пакаранне ў 2-юх беларускіх турмах: Ваўкавыскай папраўчай калоніі №11 і Гродзенскай турме №1.*

*Безумоўна, у турме чакаюць свята. Аднак у такі час быць за кратамі асабліва сумна ды прыкра. З надыходам Калядаў да многіх вязняў прыходзіць цяжкае пачуццё адзіноты, бо побач няма родных ды блізкіх.*

*У Гродзенскай турме вязні па жаданні маюць права падаць просьбу кіраўніцтву калоніі, каб яно дало магчымасць сустрэцца з каталіцкім святаром. Атрымаўшы дазвол, чалавек прыходзіць да мяне на сустрэчу ў адмысловае памяшканне, дзе можа паразмаўляць, паспавядацца і прыняць св. Камунію. Да кожнага стараюся падыходзіць індывідуальна, аказваць псіхалагічную, а таксама малітоўную падтрымку, заклікаю – асабліва перад святамі – ачысціць сваё сэрца ад граху. На вялікі жаль, у гродзенскай турме такі парадак, што вязням забараняецца сустракацца адзін з адным на тэрыторыі, таму Вігілію яны перажываюць кожны ў сваёй камеры. Канешне, сукамернікаў не падбіраюць па веравызнанні, таму часта здараецца, што католік вымушаны ў адзіноце "святкаваць" Раство. Добра, што асуджаныя зазвычай стараюцца паважаць адзін аднаго. Калі нехта перажывае Вігілію, то ставяцца да гэтага з паразуменнем, не перашкаджаюць. Канешне, у турме няма магчымасці прыгатаваць традыцыйную калядную вячэру, але падзяліцца аплаткай, якую родныя дасылаюць перад святам, ніхто не забараняе.*

*Што да Ваўкавыскай папраўчай калоніі, тут вязні маюць магчымасць працаваць і атрымліваць нейкую спецыяльнасць, а таксама перамяшчацца па тэрыторыі. Дзякуючы гэтаму зняволеным не забараняецца сустракацца і збірацца на супольным богаслужэнні, якое адбываецца раз на тыдзень. Таму ў свята Божага Нараджэння ў іх будзе магчымасць падзяліцца аплаткай з іншымі католікамі, якія адбываюць пакаранне, выказаць ім святочныя пажаданні і проста паразмаўляць.*

*Канешне, такое перажыванне свята нельга параўнаць з традыцыйным, да якога мы прызвычаіліся ў сваіх сем'ях і супольнасцях. Але трэба памятаць, што Езус нараджаецца не для пэўнай катэгорыі людзей, а ў сэрцы кожнага з нас. Таму і асуджаныя, якія вельмі часта адкінуты грамадствам, маюць права далучыцца ў сваёй радасці да іншых хрысціян у свеце. Нельга забываць пра тое, што людзі трапляюць у турму па розных жыццёвых абставінах. Сярод іх ёсць ахрышчаныя ў Каталіцкім Касцёле альбо тыя, што паходзяць з каталіцкіх сем'яў ці прыйшлі да Бога ўжо будучы за кратамі. Усе яны вольныя верыць і маліцца. Магчыма, розніца ў тым, што ў турме менш магчымасцей, бо на свабодзе можна быць на св. Імшы хоць кожны дзень, а ў турме – толькі ў акрэсленыя дні.*

# СЛОВА ДЛЯ ЖЫЦЦЯ

**Папа Францішак**



*Мір пачынаецца з душы і вяртаецца ў душу… Будаванне міру падобнае да наследавання Бога, які пажадаў прымірыцца з намі, дараваў нам, паслаў свайго Сына, каб заключыў мір. […] Гэта Езус прынёсіць спакой, які можа змяніць жыццё і гісторыю. Менавіта таму Яго называюць "Князем спакою".*

*Кожны раз, калі мы бачым, што ёсць варагоднасць малой вайны дома, у сэрцы, школе або на працы, давайце спынімся і паспрабуем заключыць мір. Давайце ніколі не будзем раніць іншых. Ніколі! […] Няхай Пан падрыхтуе нашыя сэрцы да Божага Нараджэння. І гэта адбудзецца, калі зробім тое, што ад нас залежыць: знойдзем прымірэнне ў нашым сэрцы і душы, прынясём мір у нашы сем'і, школы, асяроддзе, на працоўныя месцы – станем людзьмі міру.*

*Фрагмент гаміліі, прамоўленай падчас св. Імшы ў капліцы Дома св. Марты ў Ватыкане, 04.12.2018*

**Кс. бп Аляксандр Кашкевіч**



*Святы Касцёл, згодна з асвечанай стагоддзямі традыцыяй, запрашае нас штогод перажываць час Адвэнту ва ўнутраным засяроджанні і суцішанасці, каб, трываючы на малітве і слухаючы Божае слова, спыніліся на тым, што найважнейшае ў жыцці. Адвэнт павінен нам дапамагчы ў духоўнай падрыхтоўцы да свят Божага Нараджэння, каб маглі прывітаць Хрыста, які да нас прыходзіць, з сэрцамі, поўнымі веры і любові, аднолькавымі праз асвячальную ласку і адкрытымі на Божыя заклікі.*

*У сваім адвэнтавым чуванні будзем углядацца ў прыклад Марыі, якая з верай і любоўю чакала моманту прыйсця ў свет Божага Сына. Выразам нашай марыйнай набожнасці з'яўляюцца традыцыйныя ратратні св. Імшы, цэлебраваныя ў гонар Божай Маці. Пастараемся ў іх удзельнічаць, найлепш цэлымі сем'ямі, а прынамсі пакалапоціцца аб тым, каб удзельнічалі ў іх дзеці і моладзь. […] У многіх парафіях арганізоўцца адвэнтавыя рэкалекцыі і дні засяроджання. Пастараемся так запланаваць свой час, каб мець магчымасць прыняць у іх удзел. Не забудзем у перыяд Адвэнту прыступіць да сакрамэнту пакаяння і паяднання, каб маглі прывітаць прыходзячага Езуса з чыстым і вольным ад граху сэрцам. […] Падтрымаем таксама прыгожую традыцыю прыняцця адвэнтаваных пастаноў, якія нам дапамогуць вызваляцца ад зла і граху, развіваць у сабе цноты, паглыбляць веру і духоўнае жыццё і ўзрастаць у любові да Бога і бліжняга.*

*Фрагмент Пастырскага ліста на Адвэнт 2018*




◆ *Прэзідэнт Ірака Бархам Салех запрасіў папу Францішка наведаць краіну. Аб гэтым паведаміў сам кіраўнік дзяржавы падчас сустрэчы з сабранымі на пасяджэнні ў Багдадзе каталіцкімі патрыярхамі Блізкага Усходу. Новы прэзідэнт, які належыць да курдскай меншасці, заявіў, што збіраецца быць абаронцам Канстытуцыі, каб ахоўваць разнастайнасць і падтрымліваць дух талерантнасці і ўзаемнага суіснавання пад знакам паяднання. Запэўніў, што ў сваіх адносінах з хрысціянамі і іншымі сацыяльнымі групамі будзе кіравацца правілам грамадзянства ў краіне, жыхары якой роўныя, без дыскрымінацыі па прычыне культурнай, этнічнай ці рэлігійнай тоеснасці.*

◆ *З 1 снежня 2018 года біскуп Адэска-Сімферапальскі Браніслаў Бярнацкі ўзначальвае Канферэнцыю епіскапату Рыма-каталіцкага Касцёла ва Украіне. Гэтае рашэнне было прынята падчас 51-га пленарнага пасяджэння Канферэнцыі рыма-каталіцкіх біскупаў у Львове. Згодна са Статутам, старшыня Канферэнцыі епіскапату абіраецца на 5-гадовы тэрмін і не можа займаць гэтую пасады даўжэй за 2 тэрміны. Між іншым, на пасяджэнні былі абраны старшыні ўсіх камісій Канферэнцыі і зацверджаны план працы на наступны год.*

◆ *3-ох айцоў кларэтынаў, выкрадзеных у Камеруне ў лістападзе бягучага года, адпусцілі на волю. У руках выкрадальнікаў застаецца кіроўца, які суправаджаў святароў. Айцы былі схоплены ўзброенымі людзьмі, калі везлі гуманітарную дапамогу ахвярам канфлікту ў англамоўнай частцы краіны. Некалькі дзён таму ў паўночна-заходнім рэгіёне Камеруна адбылася разня, у выніку якой загінулі 30 чалавек. Армія і англамоўныя актывісты вінавацяць адзін аднаго ў здзяйсненні гэтага злачынства. Канфлікт паміж англамоўнай і франкамоўнай часткамі Камеруна доўжыцца з 2016 года.*

◆ *Праз 117 гадоў ЗША вернуць у Філіпіны скрадзеныя званы. Амерыканскія ваенныя вывезлі іх у 1901 годзе з касцёла ў Баланджыга Баранганскай дыяцэзіі на востраве Самар. Пасля шматгадовых просьбаў аб вяртанні гістарычных званоў было вырашана перадаць іх законным уладальнікам. Біскуп Крыспін Варкес з Барангана ацаніў гэты жэст як адвэнтавы знак "гаення ран і прымірэння". Ён выказаў надзею на тое, што яшчэ да Каляд званы вернуцца ў Баланджыгу.*

◆ *Вышэйшую ўзнагароду фэсту "Mirabile Dictu", якую называюць "каталіцкім Оскарам", атрымала стужка італьянскага рэжысёра Джавані Бедзешы "Хлеб з Неба". У аснове сюжэта – 2-ое міланскіх бяздомных, мужчына і жанчына, якія знаходзяць на сметніку немаўля. Яны ўсведамляюць, што іх жыццё зменіцца назаўжды. Але дзіця нябачнае, дакладней, яго бачаць не ўсё. Рэакцыя розных герояў на гэты факт дзівіць, а таксама і тое, хто з іх усё ж убачыў немаўля на ўласныя вочы.*

*credo.pro; kai.pl; niedziela.pl*




# 100 ГАДОЎ У ГРОДНЕ

● *працяг са с. 1*

## СТВОРАНАЯ Ў ВІГІЛІЮ

Культурна-асветніцкая арганізацыя "Таварыства польскай мацежы школьнай" была заснавана на тэрыторыі Польскага Каралеўства ў 1906 годзе. Яе заданнем было стварэнне і развіццё выхаваўча-асветніцкіх устаноў (дзіцячых садкоў, пачатковых і сярэдніх школ, вышэйшых навучальных устаноў, настаўніцкіх семінарый, народных універсітэтаў), заснаванне чытальняў, бібліятэк, правядзенне дакладаў, лекцый, гутарак, публічных прадстаўленняў, выданне і распаўсюджванне кніг. Генрык Сянкевіч, вядомы польскі пісьменнік эпохі пазітывізму і разам з тым першы старшыня Мацежы, так тлумачыў прычыны ўзнікнення ўстановы: "Людзі пачалі шукаць святло і пачалі пытацца, хто здольны яго даць. А народ у адказ стварыў Польскую мацеж школьную. Яна павінна клапаціцца пра душу людзей, пра іх веру, пра іх пачуцці, пра іх маральнасць, пра іх адукацыю ды рабіць іх здаровым і моцным падмуркам будучыні".

Гродзенскае кола Мацежы школьнай адзначае сёлета 100-годдзе свайго ўзнікнення. Яно было створана напярэдадні аднаго з найважнейшых свят у Каталіцкім Касцёле – у Вігілію Божага Нараджэння. Арганізатарам Мацежы ў Гродне стаў кс. Антоній Курыловіч –заслужаны ў працы на карысць развіцця адукацыі і культурнага жыцця на Гродзеншчыне святар.

У 1910–1954 гадах кс. Антоній служыў пробашчам у гродзенскай парафіі Адшукання Святога Крыжа (пабернардынскі). У 1915 годзе ўвайшоў у склад Асветніцкай рады, намаганнямі якой была адкрыта Гарадская сярэдняя школа. Пасля заснавання ў Гродне кола Мацежы школьнай стаў яе старшынёй. Гэтую функцыю здзяйсняў да пачатку ІІ Сусветнай вайны.

У 1938 годзе стаў ганаровым канонікам Віленскага капітула, а за дасягненені ў грамадска-асветніцкай працы атрымаў Залаты Крыж Заслугі і Кавалерскі Крыж Ордэна Адраджэння Польшчы. Выразам пашаны і ўдзячнай памяці пра кс. Антонія з'яўляецца бюст святара ў пабернардынскім касцёле, "змешчаны намаганнямі кіраўніцтва Мацежы ў Гродне і асвечаны 25 кастрычніка 1998 года".

## ПАШЫРАЕ КАТАЛІЦКІЯ ТРАДЫЦЫІ

Мацеж, якую мы ведаем цяпер, функцыянуе на працягу 23-ох гадоў. 27 снежня 1995 года яна была зарэгістравана як Польскае рэгіянальнае таварыства "Асвета" з правам дзейнасці ў Гродзенскай, Мінскай, Віцебскай вобласці і ў самім Мінску, а 26 жніўня 1996 года атрымала права дзейнічаць на тэрыторыі ўсёй Беларусі. "Галоўнай і адзінай мэтай стала пашырэнне польскамоўнай асветы на тэрыторыі Беларусі ў нацыянальным, хрысціянскім і грамадзянскім духу", – адзначае Станіслаў Сянкевіч, старшыня ПМШ.

Пры Польскай мацежы школьнай функцыянуе Грамадскі ліцэй імя Элізы Ажэшкі. Спачатку яго заняткі адбываліся ў арэндаваных памяшканнях, але ў 2011 годзе Польская мацеж школьная перамясцілася ва ўласны будынак, дзе знаходзяцца 6 класных пакояў і ўласная бібліятэка. Сёння ліцэй могуць наведваць не толькі дзеці і падлеткі, але і дарослыя. Аднак гэта не звычайная школа замежнай мовы. Падчас заняткаў настаўнікі стараюцца не толькі навучыць польскай мове, але і наблізіць польскія традыцыі і культуру.



?????????????????????????????????????????????????
?????????????????????????????????

Важнае месца ў дзейнасці Польскай мацежы школьнай займае вера. На кожнае заканчэнне навучальнага года ў гродзенскай катэдры адпраўляецца св. Імша ў гэтай інтэнцыі. У ёй прымаюць удзел навучэнцы і працаўнікі ліцэя, старшыня і віцэ-старшыня Мацежы. Прыгожай традыцыяй з'яўляецца абстаўленне падчас гэтай Эўхарыстыі Літургіі слова і падрыхтоўка Малітвы вернікаў вучнямі і настаўнікамі ліцэя.

"Штогод перад Божым Нараджэннем і Вялікаднем мы праводзім конкурс на самае прыгожае і арыгінальнае святочнае ўпрыгожанне. Найлепшыя працы заўсёды адзначаюцца ўзнагародамі, – распавядае Надзея Блажэвіч, настаўніца ліцэя пры ПМШ. –Перад надыходзячым святам расказваем вучням пра яго традыцыі і звычаі. Перад Божым Нараджэннем дзелімся аплаткай і складаем адзін аднаму віншаванні.



?????????????????????????????????????????????????
?????????????????????????????????

6 снежня ў кожны клас прыходзіць св. Мікалай, частуе слодычамі і спявае разам з намі калядкі".

Традыцыяй стала і калядная містэрыя, што ладзіцца перад зімовымі канікуламі. Настаўнік разам з дзецьмі і моладдзю рыхтуе прадстаўленне ці праграму на ўспамін прыйсця Хрыста ў свет. Пасля гэтага кола працаўнікоў Мацежы і ліцэя мае аплаткавую сустрэчу.

У ліцэі ладзяцца разнастайныя замежныя паездкі. Часта яны носяць культурна-рэлігійны характар. У мінулых гадах удзельнікі экскурсій мелі магчымасць наведаць такія вядомыя санктуарыі як Вострая Брама ў Вільнюсе (Літва), Ясная Гара ў Чанстахове і Гетшвалд (Польшча).

"Два разы на год мы дапамагаем прыбірацца на пабернардынскіх могілках, – заўважае Алена Мелеш, дырэктар ліцэя пры ПМШ. – У гэтым прымаюць удзел не толькі настаўнікі, але і вучні старэйшых класаў, а таксама дарослыя. Гэта вельмі высакародная ініцыятыва, і мяне цешыць, што заўсёды знаходзяцца ахвотныя дапамагчы ў яе рэалізацыі".

Члены гродзенскай Мацежы штогод удзельнічаюць у пілігрымцы ў Навумавічы, дзе ў 1941–1944 гадах нацысты здзейснілі некалькі экзекуцый над безабароннымі грамадзянскімі асобамі, у большасці – інтэлегенцыяй, сярод якой аказаліся таксама прадстаўнікі кола Мацежы школьнай таго часу.

Ад першай гадавіны кананізацыі папы Яна Паўла ІІ у Мацежы адбываецца конкурс рэлігійнай паэзіі. "Вядома, па арганізацыйных прычынах у ім прымаюць удзел у асноўным дзеці і моладзь з Гродзеншчыны, – тлумачыць Тэрэза Крышынь, віцэ-старшыня ПМШ. – Аднак, нягледзячы на значную адлегласць, прыязджаюць таксама ўдзельнікі з іншых абласцей краіны. Кожны з іх апавядае 1 верш на рэлігійную тэматыку. Не аднойчы гэта творы аўтарства св. Яна Паўла ІІ. Праз такую ініцыятыву мы хацелі падкрэсліць, што вядомы Папа быў таксама выдатным паэтам".

Пры Польскай мацежы школьнай дзейнічае Універсітэт трэцяга ўзросту. Старэйшыя людзі, якія належаць да яго, імкнуцца ўзбагаціцца інтэлектуальна і духоўна. Разам з тым не забываюцца аб актыўнасці, карысным і цікавым правядзенні часу. Лекцыі адбываюцца 5 разоў на месяц і праводзяцца працаўнікамі вышэйшых навучальных устаноў Гродна (Кафедра польскай філалогіі гродзенскага ўніверсітэта, Медыцынскі ўніверсітэт), універсітэтаў Польшчы (Гданьск, Беласток, Кракаў) і Літаратурнага інстытута ПАН. Адна з важнейшых зацікаўленасцей студэнтаў УТУ – вера. "Стаўпом нашай дзейнасці з'яўляецца Бог. У кожную другую нядзелю мы збіраемся на св. Імшы ў касцёле Маці Божай Анёльскай, каб дзякаваць Усемагутнаму за тое, што дажылі да гэтых гадоў і маем магчымасць дапаўняць недахопы праз здабыццё новых ведаў і паглыбленне ўжо атрыманых, – адзначае Барбара Фустачэнка, прэфект УТУ. – Пасля Эўхарыстыі святар прамаўляе для нас канферэнцыю на рэлігійную тэматыку. Сёння гэта здзяйсняе а. Павел Раманчук".

Пры УТУ дзейнічае таксама хор "Seniori Cantabili".



?????????????????????????????????????????????????
?????????????????????????????????

Яго рэпертуар складаецца як з патрыятычных твораў, так і з рэлігійных. "Мы ўдзельнічаем у разнастайных фестывалях і музычных конкурсах. У мінулым годзе ў рамках святкавання 20-годдзя заснавання нашага ўніверсітэта мы выступалі з канцэртам у Польшчы", – расказвае спадарыня Барбара. "Лічым, што не можам працягнуць людское жыццё, бо гэтае пытанне – Божы план, але палепшыць якасць жыцця ў пажылым узросце не толькі можам, але і павінны", – падкрэсліваюць студэнты УТУ.

Шматлікія ініцыятывы Польскай мацежы школьнай з'яўляюцца цудоўным прыкладам таго, як можна спалучыць грамадска-культурную дзейнасць з папулярызацыяй хрысціянскіх каштоўнасцей.

*Вікторыя Сідар*

# БЛАСЛАЎЛЁНЫЯ СЁСТРЫ СА СЛОНІМА

***Жыццё 2-юх манахінь з Кангрэгацыі Сясцёр Беззаганнага Зачацця Найсвяцейшай Панны Марыі (сёстры Беззаганнага Зачацця) цесна пераплялося, хоць кожная з іх ішла ўласнай дарогай да Бога, да святасці: с. Марта Валоўская – актыўная і энергічная настаяцельніца манаскіх дамоў, укараняльніца традыцый і культуры на крэсах; с. Ева Наішэўская – ціхая, "закрытая ў сабе" настаўніца і ўрач. Іх аб'ядняла бязмежная вера ў Божы Провід і давер да міласэрнасці Усемагутнага.***


????????????????????????????????????????????????? ???????????????????????????????

### ТВОР СВЯТАСЦІ З ЖЫЦЦЯ

Сёстры пазнаёміліся ў Слоніме ў час ІІ Сусветнай вайны. Абедзве вылучаліся душэўным супакоем і сілай духу. Разам прайшлі крыжовым шляхам 2-юх акупацый: савецкай і нямецкай; перажылі прыніжэнне, беднасць і голад, пазбаўленне даху над галавой і нават свабоды…

Жыццё сясцёр стала падрыхтоўкай да ахвяры смерці за веру: прынялі яе свядома і дабравольна. Кожная з іх здолела са свайго на першы погляд звычайнага, карпатлівага і поўнага цяжкасцей існавання зрабіць твор святасці – святасці бачнай і відавочнай для людзей, якія спазналі дабрыню манахінь. Дзякуючы гэтаму сёння наш мясцовы Касцёл можа ганарыцца заступніцамі ў Небе ў асобе бласлаўлёных сясцёр Беззаганнага Зачацця. Іх мучаніцкая кроў асвяціла гродзенскую зямлю. Іх прыклад заахвочвае нас быць адважнымі ў вызнаванні сваёй веры.

### ВЕРНЫЯ ДА КАНЦА

Калі ў 1906 годзе кс. Рышард Клям прапанаваў сёстрам Беззаганнага Зачацця заняць стары кляштар бернардынак у Слоніме, дзе засталіся толькі 2 пажылыя манахіні, яны ўспрынялі гэта як Божую волю. Пасля прыбыцця на месца рабілі ўсё з думкай аб правядзенні выхаваўчай працы. З часам ім удалося адкрыць т. зв. Польскую школу – мужчынскую і жаночую. Пазней адну з іх ператтварылі ў агульнаадукацыйную школу і настаўніцкую семінарыю.

ІІ Сусветная вайна і акупацыя сталі для сясцёр сур'ёзным выпрабаваннем. Яны часта вымушаны былі хавацца і зменьваць іх кляштара рэлігійныя абразы і іншыя прадметы культу, каб не абуджаць падазрэнняў і не звяртаць на сябе лішняй увагі.

Сціплыя і заўсёды гатовыя дапамагчы, яны падтрымлівалі патрабуючых, галадаючых, сем'і вязняў і забітых. На тэрыторыі кляштара хавалі яўрэяў. Таемна дапамагалі людзям, якія хаваліся ў лясах каля Слоніма. У цёмныя ночы ці ў непагадзь тыя прыходзілі ў кляштар, каб атрымаць ад сясцёр якую-небудзь ежу, а таксама бінты, лякарствы, мазі, медыцынскую кансультацыю. Манахінь шматразова перасцерагалі аб небяспецы, якая ім пагражае, аднак, нягледзячы на гэта, яны не спынялі сваю дзейнасць.

Ноччу 18 снежня 1942 года немцы ўварваліся ў кляштар і арыштавалі абедзвюх сясцёр. На досвітку наступнага дня на Пятралевіцкай гары манахінь расстралялі разам з некалькімі сотнямі чалавек і скінулі ў агульную магілу. Ахоўнікі, якія сталі сведкамі апошніх хвілін жыцця арыштаваных, расказвалі пазней, што сёстры да самага канца не спынялі малітву, прымаючы мучаніцкую смерць, і прасілі астатніх трымацца. А непасрэдна падчас расстрэлу с. Марта паспела яшчэ сказаць: "Ойча, прабач ім, бо не ведаюць, што чыняць".

> *Кангрэгацыя Сясцёр Беззаганнага Зачацця НПМ паўстала ў Рыме ў 1857 годзе. Духоўнай мэтай супольнасці з'яўляецца пашырэнне Божай хвалы і адказ любоўю на любоў Усемагутнага.*

### ДАР ДЛЯ КАСЦЁЛА

Сёстры Беззаганнага Зачацця, якія засталіся пры жыцці, вымушаны былі ў 1945 годзе пакінуць Слонім. Магчымасць вярнуцца атрымалі ажно праз 45 гадоў, на працягу ўсяго гэтага часу яны верна захоўвалі памяць пра сваіх папярэдніц – с. Марту і с. Еву.

13 чэрвеня 1999 года за непахіснасць у веры і мужнасць папа Ян Павел ІІ беатыфікаваў загінуўшых сясцёр у групе 108-мі бласлаўлёных мучанікаў часоў ІІ Сусветнай вайны. У хуткім часе пасля гэтай падзеі прадстаўніцы Кангрэгацыі зноў пакінулі Слонім. Апошняй у 2000 годзе выехала с. Рэната Касацкая. Аднак плён паслугі манахінь у мясцовым Касцёле да сёння застаецца ў добрай і ўсё яшчэ жывой памяці жыхароў, якім яны аддана служылі, несучы суцяшэнне і падтрымку.



### Бласлаўлёная с. Ева Наішэўская ад Провіду

- Нарадзілася 11 мая 1885 года ў Астанішках на Віленшчыне (сёння Літва).
- Была старэйшай дачкой з 11-ці дзяцей Казіміра Наішэўскага, вядомага акуліста і прафесара Універсітэта Стэфана Баторыя ў Вільнюсе.
- Падчас І Сусветнай вайны працавала ў ваеннай медыцынскай установе, маючы адпаведную адукацыю.
- Пасля складання манаскіх абяцанняў у Кангрэгацыі Сясцёр Беззаганнага Зачацця НПМ выконвала абавязкі ўрача супольнасці. Працавала як настаўніца і выхавацельніца ў гімназіях у Язлоўцы (Украіна) і Слоніме.
- На працягу жыцця вяла запісы, якія з'яўляюцца свайго роду дзённікам душы. Гэта свабодныя запіскі, часта без даты.

*"Добрыя справы, выкананыя з любоўю, расчульваюць і захапляюць Божае сэрца".*

### Бласлаўлёная с. Марта Валоўская ад Езуса

- Нарадзілася 12 кастрычніка 1879 года ў Любліне (Польшча) у заможнай сям'і вядомага юрыста і грамадскага дзеяча.
- Ужо будучы падлеткам вучыла іншых дзяўчат польскай мове і гісторыі.
- Уваходзячы ў сталае жыццё, думала пра сужэнства, але адчула раптоўнае пакліканне да манаства і ўступіла ў Кангрэгацыю Сясцёр Беззаганнага Зачацця НПМ.
- На працягу многіх гадоў была настаяцельніцай у Мацееве на Валыні (сучасная Украіна). Арганізавала дзіцячы дом для больш за сотні дзяцей розных нацыянальнасцей, агульнаадукацыйную школу, настаўніцкую семінарыю і прафесійную школу.
- Стварала вакол сябе атмасферу талерантнасці і гарманічнага суіснавання культурна і рэлігійна разрозненай супольнасці.

*"Адзін Пан Бог над намі і святая Яго воля для кожнай душы".*


*С. Рэната Касацкая ад Божай міласэрнасці*

*У Слоніме я працавала з 1995 да 2010 года. Разам з іншымі сёстрамі вярнуліся ў кляштар пасля доўгіх гадоў перапынку (з 1946 года). Запрасіў нас туды а. Вітольд Жэльветра разам з колішнімі вучаніцамі пачатковай школы і настаўніцкай семінарыі, якімі кіравалі манахіні.*

*Пасля вяртання Кангрэгацыі кляштара і прылягаючай тэрыторыі мы заняліся ўпарадкаваннем саду і рамонтам будынка. Нягледзячы на цяжкія ўмовы, цешыліся, што можам служыць не толькі праз клопат аб святыні, але і праз супрацоўніцтва з людзьмі – праводзілі катэхезы для дзяцей, моладзі і старэйшых, а пазней і для сем'яў. Важным этапам нашай паслугі была катэхеза ў 6-ці ці 7-мі дзіцячых садках на тэрыторыі горада. У душпастырскай дзейнасці пастаянна супрацоўнічалі з айцамі капуцынамі, дапамагаючы ім, у першую чаргу, праз катэхізацыю.*

*Мелі таксама магчымасць дапамагаць патрабуючым. Першапачаткова вельмі спантанна – дзяліўся тым, што атрымлівалі ад мясцовых і замежных дабрадзеяў. З 1999 года дабрачынную дзейнасць мы праводзілі ўжо разам з "Caritas" і "Мальтыйскай службай дапамогі". Дзякуючы гэтаму падтрымка магла даходзіць не толькі католікам са Слоніма, але і патрабуючым з ўсяго раёна, незалежна ад нацыянальнасці і веравызнання. Прымалі разнастайную гуманітарную дапамогу: абсталяванне для бальніцы, прылады для сталярскай і швейнай майстэрні для хлопцаў і дзяўчат з абмежаванымі магчымасцямі, а таксама садовыя інструменты і цяплічныя тунэлі. Выдавалі пасілкі бяздомным, калекам і самотным. Выдзялялі памяшканні для сустрэч супольнасці "Ананімных алкаголікаў".*

*Прагну выразіць сардэчную ўдзячнасць усім, хто падтрымліваў нас і нашу паслугу, супрацоўнічаў з намі. Са свайго боку магу толькі запэўніць у гарачай малітве. Веру, што бласлаўлёныя сёстры мучаніцы – с. Ева і с. Марта – па-іншаму, глыбей рэалізуюць цяпер місію супольнасці ў касцёле Беззаганнага Зачацця НПМ у Слоніме. Прыходзьце ў святыню, як раней – яны Вас чакаюць! Хочуць зноў паказаць дарогу да Езуса і Марыі. Мужнасці! Бог з'яўляецца Айцом Міласэрнасці.*

*Кс. Юрый Марціновіч*

## З КАТАЛІЦКІХ СМІ




**"Беспрытульны Езус"**

***Скульптуру пад такой назвай усталявалі каля катэдральнай святыні буйнейшага мегаполіса Бразіліі – у Рыа-дэ-Жанейра.***

*Бронзавая статуя, выробленая ў натуральную велічыню чалавека, паказвае Хрыста ў вобразе бяздомнага, які спіць на лаўцы, прыкрыўшыся коўдрай, з босымі нагамі. На ступнях бачны раны ад цвікоў, якімі Езус быў прыбіты да крыжа на Галгофе.*

*Помнік адкрыты з нагоды Міжнароднага дня бедных.*




**Бясполыя акты нараджэння**

***Архідыяцэзія Перт у Аўстраліі супраціўляецца прапанаваным зменам у законе, якія скасоўваюць з актаў нараджэння інфармацыю аб поле дзіцяці.***

*Касцёл перасцерагае, што гэта прывядзе да блытаніны, між іншым у арганізацыі працы ў школах. "Ад рэгістрацыі дзяцей у адпаведных класах праз спартыўныя мерапрыемствы да спраў асабістай гігіены школы мусяць дакладна ведаць, якога полу з'яўляецца вучань для таго, каб забяспечыць кожнаму з іх адпаведную бяспеку", – піша ад імя архідыяцэзіі Перт кс. Джозаф Паркінсан.*

*У жніўні бягучага года спецыяльная камісія па справах рэформы права ў Заходняй Аўстраліі апублікавала ўступны рапарт, у якім гаворыцца аб скасаванні з актаў нараджэння класіфікацыі на падставе полу з агаворкай, што яна павінна быць удакладнена ў Рэестры нараджэнняў, смерцяў і шлюбаў. У праекце прапануецца таксама, што дзеці ад 12-ці гадоў жыцця могуць хадайнічаць аб змене полу без згоды бацькоў пасля рашэння сямейнага суда.*




**Адшуканы персцень Пілата**

***Ён быў знойдзены 50 гадоў таму недалёка Бэтлеема, але толькі цяпер пры выкарыстанні спецыяльных тэхналогій удалося прачытаць выграваранае на ім імя чалавека, які асудзіў Езуса на смерць.***

*Персцень выраблены з бронзы і ўжываўся штодзённа як пячатка. Ім карыстаўся альбо сам Пілат, альбо нейкая ўпаўнаважаная высокая службовая асоба.*

*Аб аўтэнтычнасці знаходкі гаворыць таксама факт, што такі тып персценя быў характэрны для класа эквітаў, да якога належаў Понцій Пілат.*

## Каляндар падзей

**16 снежня**
III Нядзеля Адвэнту.

**20, 22, 23 снежня**
Квартальныя дні малітвы аб хрысціянскім жыцці ў сем'ях.
Молімся за сем'і і тых, хто рыхтуецца да прыняцця сакраманту сужэнства.

**24 снежня**
Вігілія Божага Нараджэння.

**25 снежня**
Урачыстасць Божага Нараджэння.

**26 снежня**
Свята св. Стэфана, дыякана і мучаніка.
Благаслаўленне аўса.

**27 снежня**
Успамін св. апостала Яна, евангеліста.
Благаслаўленне віна.

**28 снежня**
Свята свсв. Немаўлят, мучанікаў.

**30 снежня**
Свята Святой Сям'і.
Молімся аб хрысціянскім жыцці і святасці ў сем'ях.

## Праграмы каталіцкай рэдакцыі

**"Голас Евангелля"**
Разважанні над Божым словам.
Выходзіць на Першым нацыянальным канале Беларускага радыё кожную нядзелю ў 8.00 у Гродне на 96,9 FM, у Свіслачы на 100.8 FM.

**Навіны з Ватыкана па-беларуску**
Радыёвяшчанне з Апостальскай Сталіцы.
Штодзённа ў 22.10 на 98,1 FM – у Гродне, Ваўкавыску, Шчучыне, Лідзе, Мастах і побач з гэтымі гарадамі; на 99,2 FM – у Брэсце і побач з ім; у 20.00 на кароткіх хвалях 6185 і 11715 кГц.; у 20.00 і 6.20 на спадарожніку "Eutelsat Hotbird 13" на канале "Radio Vaticana Telepace". Кожную нядзелю ў 8.55 на хвалях Першага нацыянальнага канала Беларускага радыё і на Канале "Культура" Беларускага радыё. У інтэрнэце на старонцы vatican.by.

## Ружанцовыя інтэнцыі

**Снежань**

Каб людзі, уцягнутыя ў залежнасць алкагалізму, наркаманіі і ў іншыя "язвы" нашага грамадства, усвядомілі зло свайго жыцця і вярнуліся да Пана.

## НАВІНЫ



### ПАСЯДЖЭННЕ ГАЛОЎНАЙ СІНАДАЛЬНАЙ КАМІСІІ

Пасяджэнне галоўнай камісіі і старшыняў камісій I Сінода Гродзенскай дыяцэзіі адбылося ў будынку дыяцэзіяльнай курыі. Сустрэчу ўзначаліў біскуп Гродзенскі Аляксандр Кашкевіч. У ёй прыняў удзел таксама дапаможны біскуп дыяцэзіі Юзаф Станеўскі.

Генеральны сакратар Сінода кс. канонік Антоній Грэмза прадставіў ход працы Сінода і тое, што ўдалося здзейсніць на працягу года з моманту яго распачацця. З вынікамі бягучай працы выступіў кожны са старшыняў сінадальных камісій. Прагучалі канкрэтныя прапановы, якія могуць паспрыяць аднаўленню рэлігійнага жыцця ў дыяцэзіі.

Сустрэча завяршылася св. Імшой у катэдральным касцёле св. Францішка Ксаверыя. Сабраныя маліліся аб плённай працы Сінода, каб гэтая справа спрыяла ўзрастанню веры ў людзях і дала адказ на новыя праблемы, якія з'яўляюцца ў сучасным свеце і сучасным Касцёле.

### БІСКУПСКІЯ ВІЗІТЫ



У межах штомесячных малітваў у інтэнцыі сем'яў і абароны жыцця ненароджаных дзяцей кс. бп Аляксандр Кашкевіч узначаліў св. Імшу ў Нацыянальным санктуарыі св. Юзафа ў Калішы (Польшча).

У касцёле Божай Міласэрнасці ў Гродне кс. бп Юзаф Станеўскі цэлебраваў Эўхарыстыю за членаў малітоўнай групы "У абарону жыцця", якая 5 гадоў дзейнічае пры парафіі, і аб развіцці гэтай патрэбнай ініцыятывы ў дыяцэзіі.

### ВЫШЭЙШАЯ ДУХОЎНАЯ СЕМІНАРЫЯ



Адвэнтавы дзень засяроджання прайшоў у сценах Вышэйшай духоўнай семінарыі ў Гродне. Яго кіраўніком выступіў кс. Ян Сарэла, духоўны айцец семінарыстаў. Святар распавёў навучэнцам пра цэлібат і вялікую вартасць захавання свайго сэрца ў чысціні.

Семінарыйны гурт "AVE" выступіў з музычнай праграмай перад прысутнымі падчас рэкалекцый цвярозасці ў рэктаральным касцёле Звеставання Найсвяцейшай Панны Марыі ў Гродне. Разам з прэфектамі кс. Андрэем Лішко і кс. Янам Раманоўскім клерыкі наведалі школу ў Доцішках, дзе правялі спаборніцтва па міні-футболе.

### ДЫЯЦЭЗІЯЛЬНЫЯ ДУШПАСТЫРСТВЫ



Група членаў душпастырства чыгуначнікаў Гродна ў складзе 20-ці чалавек прыняла ўдзел у пешай экскурсіі, падчас якой наведала касцёлы ў цэнтры горада. У ролі экскурсавода выступіў кс. канонік Антоній Грэмза, які пазнаёміў сабраных з багатай гісторыяй святынь.

З нагоды Міжнароднага дня інвалідаў у рэктаральным касцёле Звеставання Найсвяцейшай Панны Марыі ў Гродне адбылася св. Імша ў інтэнцыі членаў душпастырства глуханямых. Пасля цэлебрацыі Эўхарыстыі прысутным былі раздадзены падарункі.

### КУЛЬТУРНЫЯ ПАДЗЕІ



Салезіянская сям'я ў Смаргоні адсвяткавала 177-ты Дзень нараджэння араторыя. Менавіта столькі гадоў таму ў Турыне (Італія) нарадзіўся першы салезіянскі араторый. Сустрэча распачалася ўрачыстай св. Імшой, якую адправіў кс. Уладзіслаў Сурвіла. У мясцовым араторыі моладзь падрыхтавала гульні, спевы, танцы, сцэнкі, відэасюжэты.

Вернікі парафіі Унебаўзяцця Найсвяцейшай Панны Марыі і св. Язафата Кунцэвіча з Сапоцкіна прынялі ўдзел у святкаванні 27-ай гадавіны заснавання "Радыё Марыя" ў Торуні (Польшча). Праграмай была прадугледжана ўрачыстая св. Імша падзякі і канцэрт песні і танца.

### АДНЫМ РАДКОМ

• Група вернікаў у складзе 39-ці чалавек на чале з пробашчам парафіі свсв. апосталаў Пятра і Паўла ў Іўі кс. Янам Гавэцкім здзейсніла аўтобусную пілігрымку ў Літву. • У Навагрудку стартавала дабрачынная калядная акцыя "Кошык дабрыні", арганізатарам якой, між іншым, з'яўляецца мясцовая парафія св. Міхала Арханёла. • У Польшчы адышоў у вечнасць кс. Казімір Вальчук SDB, які на працягу 21-го года нёс паслугу ў Гродзенскай дыяцэзіі.

*Агляд навін падрыхтаваны на аснове інтэрнэт-старонкі **grodnensis.by**.*

## АНОНСЫ

### ДЫЯЦЭЗІЯЛЬНАЕ "КАРЫТАС" ПРАВОДЗІЦЬ ДАБРАЧЫННУЮ АКЦЫЮ "КАЛЯДНАЯ СВЕЧКА"

**Свечкі распаўсюджваюцца ў Адвэнце ва ўсіх парафіях Гродзенскай дыяцэзіі. Сабраныя ахвяраванні будуць накіраваны на дапамогу дзецям, якія знаходзяцца ў патрэбе: сіротам, дзецям з малазабяспечаных і шматдзетных сем'яў, інвалідам.**

*Дабрачынная акцыя "Калядная свечка" праходзіць у Беларусі ўжо не першы год. Далучыцца да яе можа кожны чалавек добрай волі.*

### СТУДЭНТЫ З НІГЕРЫІ І ШРЫ-ЛАНКІ ВЫСТУПЯЦЬ З КАНЦЭРТАМ У ГРОДЗЕНСКІМ КАСЦЁЛЕ

**Моладзь прадставіць сабраным вернікам калядныя песні на роднай мове.**

*Канцэрт адбудзецца 25 снежня, ва ўрачыстасць Нараджэння Пана, у рэктаральным касцёле Звеставання НПМ. Пачнецца ў 16.30, адразу пасля св. Імшы на англійскай мове (яе пачатак у 15.30).*

### УДЗЕЛЬНІКІ ПІЛІГРЫМКІ ГРОДНА–РОСЬ І ВАЛАНЦЁРЫ ДЫЯЦЭЗІЯЛЬНАГА ДНЯ ДЗІЦЯЦІ ЗАПРАШАЮЦЦА НА АПЛАТКАВУЮ СУСТРЭЧУ

**Спатканне адбудзецца 26 снежня ў гродзенскай парафіі Беззаганнага Зачацця Найсвяцейшай Панны Марыі (мікрараён Паўднёвы).**

Праграма:
19.00 – св. Імша ў інтэнцыі ўдзельнікаў пілігрымкі, валанцёраў і ахвярадаўцаў;
20.00 – дзяленне аплаткай, салодкі пачастунак у дольным касцёле.

У праграме сустрэчы запланавана віншавальная частка з нагоды свят Божага Нараджэння і спеў калядак.

*Падрабязная інфармацыя па тэлефоне: (8 029) 784-05-72, кс. Юрый Марціновіч.*

### РЭКАЛЕКЦЫІ ДЛЯ ЮНАКОЎ ПРОЙДУЦЬ У ГРОДЗЕНСКАЙ ВДС

**Духоўныя практыкаванні на тэму "Не бойцеся, я абвяшчаю вам вялікую радасць..." (Лк 2, 10) адбудуцца з 4 па 6 студзеня 2019 года.**

Удзельнікі рэкалекцый змогуць адчуць клімат семінарыйнага жыцця, паразмаўляць з клерыкамі і духоўнымі айцамі, а таксама ўзбагаціць свае веды адносна праўд веры і малітвы.

На перажыванне хвілін цішыні, а таксама цікавае разважанне над сваім жыццёвым шляхам запрашаюцца юнакі, а асабліва міністранты ад 14-ці гадоў. З сабою неабходна мець Святое Пісанне і кожму.

Аб жаданні прыняць удзел у рэкалекцыях трэба паведаміць да 2 студзеня. Колькасць удзельнікаў абмежаваная.

*Запіс па тэлефоне семінарыі: (8-0152) 62-22-22.*
*Адказны за рэкалекцыі – кс. Андрэй Лішко, (8-029) 744-99-61.*

### У малітве ўспамінаем памерлых душпастыраў:

**16 снежня 1975 г.** – а. Аркадзь Вальтась OFMConv., проб. Гродна;
**17 снежня 1996 г.** – а. Станіслаў Гаўлік CMF, проб. Прывалка, Азёры;
**20 снежня 1992 г.** – кс. Вацлаў Стэфановіч SDB, проб. Крупава.
**30 снежня 1997 г.** – кс. д-р Рышард Слівінскі, праф. Гродзенскай ВДС;

# Ад шчырага сэрца

**Іх Эксцэленцыям Ксяндзам Біскупам Аляксандру Кашкевічу і Юзафу Станеўскаму**

з нагоды свят Божага Нараджэння і Новага года складаем сардэчныя пажаданні. Няхай нованароджаны Збаўца, які прыносіць супакой усяму чалавецтву, адорвае Вас сваімі дарамі і здароўем, радасцю і душэўным супакоем, а таксама дабрынёй і зычлівасцю людскіх сэрцаў.

*Рэдакцыя "Слова Жыцця"*

**Іх Эксцэленцыям Ксяндзу Арцыбіскупу Тадэвушу Кандрусевічу, Ксяндзам Біскупам Аляксандру Кашкевічу, Юзафу Станеўскаму, Антонію Дзям'янку, паважаным Ксяндзам Пробашчу Яну Кучынскаму, Паўлу Безляповічу, Аляксандру Сямінскаму, Аляксандру Мацкевічу, Алегу Канановічу, Андрэю Каўшуку, Анджэю Ганчару, Руслану Мазану, Віталію Дабраловічу, Айцу Казіміру Жылісу, усім Ксяндзам і Сёстрам Гродзенскай дыяцэзіі, Рэктару і Клерыкам Гродзенскай вышэйшай духоўнай семінарыі**

з нагоды свят Божага Нараджэння і Новага года сардэчна жадаем моцнага здароўя, доўгіх гадоў жыцця, шчасця, радасці, душэўнага супакою, шчырых і верных людзей побач, шчодрых дароў Святога Духа. Няхай Бог Айцец адорвае Вас сваёю любоўю, Езус у кожную хвіліну жыцця шчыра блаславіць, Маці Божая аберагае ад нягод, а Бэтлеемская зорка асвячае кожны Ваш дзень.

*Апостальства "Маргарытка" з парафіі св. Францішка Ксаверыя ў Гродне*

**Іх Эксцэленцыям Ксяндзам Біскупам Аляксандру Кашкевічу і Юзафу Станеўскаму**

з нагоды свят Божага Нараджэння і Новага года жадаю Божага блаславення, апекі Маці Божай, моцнага здароўя, сілы, цярплівасці на пастырскім шляху. Ідзіце ім мужна і верна, поўныя Божай мудрасці і святога запалу. Няхай кожны дзень праходзіць у радасці і спакоі, а побач будуць толькі добразычлівыя людзі.

*С. Ірэна Златкоўская, генеральная настаяцельніца Супольнасці сясцёр дапаможніц чыстцовым душам*

**Яго Эксцэленцыі Ксяндзу Біскупу Аляксандру Кашкевічу**

з нагоды свят Божага Нараджэння і Новага года складаем сардэчныя віншаванні, спалучаныя з малітвай. Няхай нованароджаны Збаўца адорыць Вас шчодрымі ласкамі, а Найсвяцейшая Маці заўсёды Вамі апекуецца.

*Аліцыя і Віталій Воранавы са Смаргоні*

**Паважаным Ксяндзам Юрыю Марціновічу, Яраславу Грынашкевічу, Валерыю Быкоўскаму, Паўлу Салабуду, Алегу Канановічу і Яну Раманоўскаму**

жадаем радасных і добрых свят Божага Нараджэння, мноства шчаслівых хвілін і поспехаў у новым 2019 годзе. Няхай Дзіцятка Езус блаславіць Вас на доўгія гады служэння Богу і людзям, а Маці Божая атуліць плашчом сваёй мацярынскай дабрыні.

*Рэдакцыя "Слова Жыцця"*

**Паважанай Сястры Люцыі ???**

з нагоды Імянін перасылаем сардэчныя пажаданні. Няхай кожны Ваш дзень будзе шчаслівы і блаславёны, побач будуць зычлівыя людзі, а Божыя ласкі сыходзяць на Вас няспынна. Чэрпайце радасць з кожнай хвіліны, цешцеся сваёй паслугай і заўсёды ўсміхайцеся сабе і людзям навокал.

*Францішканскі ордэн свецкіх і парафіяне з Ліпнішкаў*

**Паважанаму Ксяндзу Віктару Захараўскаму**

з нагоды свят Божага Нараджэння перасылаем сардэчныя пажаданні. Няхай Божае Дзіцятка блаславіць Вас на далейшыя гады служэння Богу і людзям, а Божая Маці вядзе найпрыгажэйшай дарогай жыцця. Жадаем таксама шчодрых дароў Святога Духа, душэўнага супакою, вялікай радасці, верных і добрых людзей на жыццёвым шляху і шчодрых Божых ласкаў.

*Вернікі з парафіі Божага Цела ў Дварцы*

**Паважанаму Ксяндзу Дзянісу Шмыгіну**

з нагоды свят Божага Нараджэння і надыходзячага Новага года жадаем радаснага чакання і гатоўнасці прыняць Божага Сына. Жадаем таксама здароўя, доўгіх гадоў жыцця, радасці, добразычлівых людзей побач, плённай душпастырскай працы, Божага блаславення і апекі Найсвяцейшай Панны Марыі. Дзякуем за абвяшчэнне Божага слова, прыгожы прыклад веры і мудрасці. Няхай святло Хрыста асвячае Ваш святарскі шлях.

*Парафіяне і Касцёльны камітэт з в. Міжэрычы*

**Паважанаму Айцу Вальдэмару Слоту**

з нагоды Імянін жадаем моцнага здароўя, душэўнага супакою, людской добразычлівасці. Няхай нованароджаны Божы Сын узмацняе Вас у пакліканні, а кожны дзень жыцця будзе напоўнены людской дабрынёй і задавальненнем ад абранага жыццёвага шляху.

*Члены Апостальства дапамогі чыстцовым душам з Вялікай Бераставіцы*

**Паважанаму Ксяндзу Валерыю Лісоўскаму**

з нагоды Імянін складаем самыя сардэчныя пажаданні: шчодрых Божых ласкаў на кожны дзень, дароў Святога Духа і нястомнай апекі Найсвяцейшай Маці. Няхай добры Бог заўсёды дапамагае ў абвяшчэнні Божага слова і будаванні Нябеснага Валадарства на зямлі.

*Члены Апостальства дапамогі чыстцовым душам і парафіяне, Вярэйкі*

**Паважанаму Айцу Зянону Рамейку**

з нагоды Імянін перасылаем сардэчныя пажаданні: моцнага здароўя, душэўнага супакою, здзяйснення ўсіх мар і намераў, стойкасці, моцы, добрых людзей побач, нязгаснага запалу да працы і Божага блаславення на кожны дзень жыцця.

*Члены Апостальства дапамогі чыстцовым душам з Астрыны*

**Паважанаму Ксяндзу Міхалу Ластоўскаму**

жадаем радасных і добрых свят Божага Нараджэння, мноства шчаслівых хвілін і поспехаў у новым годзе. Няхай Дзіцятка Езус блаславіць Вас на доўгія гады служэння Богу і людзям, а Маці Божая атуліць плашчом сваёй мацярынскай дабрыні і любові.

*Члены Апостальства дапамогі чыстцовым душам Гродзенскай дыяцэзіі і с. Ірэна Златкоўская, генеральная настаяцельніца Супольнасці сясцёр дапаможніц чыстцовым душам*

**Паважанаму Ксяндзу Юрыю Канапельку**

з нагоды свят Божага Нараджэння і Новага года жадаем добрага здароўя, шчодрых Божых ласкаў, дароў Святога Духа, нястомнай апекі Маці Божай і святога Заступніка. Няхай кожны дзень будзе напоўнены любоўю і радасцю. Дзякуем за прыклад набожнасці, добрае сэрца і за тое, што Вы з намі.

*Вернікі з парафіі св. Міхала Арханёла ў Поразаве*

**Паважанаму Ксяндзу Пробашчу Віталію Чургану**

з нагоды надыходзячых свят Божага Нараджэння і Новага года перасылаем сардэчныя пажаданні. Няхай Бэтлеемская зорка асвячае Ваш шлях, Дзіцятка Езус адорвае супакоем, любоўю і радасцю, а Маці Божая апекуецца ў кожную хвіліну жыцця. Жадаем шчасця, здароўя, багатага плёну ў святарскай паслузе, а таксама добразычлівых людзей побач.

*Ружанцовае кола МБ Тракельскай і парафіяне з Юрацішкаў*

**Паважаным Ксяндзам Пробашчу Яну Кучынскаму, Паўлу Безляповічу, Аляксандру Сямінскаму, Алегу Канановічу і Андрэю Каўшуку**

з нагоды свят Божага Нараджэння і Новага года перасылаем сардэчныя пажаданні. Няхай Божае Дзіцятка блаславіць Вас на далейшыя гады служэння Богу і людзям, а Божая Маці вядзе найпрыгажэйшай дарогай жыцця. Жадаем таксама шчодрых дароў Святога Духа, душэўнага супакою, вялікай радасці, верных і добрых людзей побач і ўсіх Божых ласкаў.

*Моладзь з гродзенскай катэдры*

**Паважанаму Ксяндзу Артуру Малафею**

з нагоды Дня нараджэння сардэчна жадаем моцнага здароўя, душэўнага супакою, сіл, стойкасці і нязгаснага запалу да абвяшчэння Евангелля. Няхай кожны Ваш дзень будзе напоўнены Божай любоўю, а праца прыносіць радасць, задавальненне і блаславёны плён. Няхай будзе шмат прычын для ўсмешкі, таму што яна робіць гэты свет лепшым. Дзякуем за чуласць і дабрыню, а таксама за тое, што ўмееце дараваць кожным з нас.

*Вернікі з парафіі Гродна-Аўгустовак*

**Паважаным Ксяндзам Артуру Малафею і Міхалу Ластоўскаму**

з нагоды свят Божага Нараджэння і Новага года жадаем моцнага здароўя, добразычлівых людзей на жыццёвым шляху і ўсмешкі на кожны дзень. Няхай Пан Бог блаславіць, асвячае Вас сваёй любоўю, адорвае ласкамі і сілай у штодзённым служэнні Богу і людзям. Мы ўдзячны Вам за шчырую малітву, прыгожыя казанні, радасць і любоў, а таксама за тое, што Вы з намі.

*Вернікі з парафіі Гродна-Аўгустовак*

**Паважаным Ксяндзам Пробашчу Яну Этэлю, Аляксандру Фядотаву, Віктару Сініцкаму, Аляксею Венцкевічу, а таксама Сёстрам Аляксандры і Дароце**

з нагоды свят Божага Нараджэння і Новага года перасылаем сардэчныя пажаданні. Няхай Бэтлеемская зорка асвячае Ваш жыццёвы шлях, Дзіцятка Езус адорвае супакоем і радасцю, Маці Божая нястомна апекуецца, а Святы Дух шчодра спасылае свае дары. Жадаем шчасця, здароўя на доўгія гады, стойкасці і ясных дзён у святарскай і манаскай паслузе. Дзякуем за абвяшчэнне Божага слова, добрыя сэрцы і малітву.

*"Легіён Марыі" і малітоўная група "Добрага Пастыра", Гродна-Вішнявец*

**Паважанаму Ксяндзу Паўлу Звяжынскаму**

з нагоды надыходзячых свят Божага Нараджэння і Новага года перасылаем сардэчныя пажаданні. Няхай нованароджаны Хрыстос адорыць Вас шчодрымі ласкамі і блаславеннем, Найсвяцейшая Панна Марыя штодзённа апекуецца, а Святы Дух спасылае свае дары. Жадаем здароўя, душэўнага супакою, поспехаў у душпастырскай працы, радасці на кожны дзень і добразычлівых людзей побач.

*Парафіяне з Варнян і Вароны*

**Паважанаму Ксяндзу Пробашчу Аляксандру Адамовічу**

з нагоды свят Божага Нараджэння і Новага года сардэчна жадаем шмат здароўя, душэўнага супакою і шчодрых Божых ласкаў. Няхай нованароджаны Езус заўсёды будзе Вашым Сябрам, Найсвяцейшая Маці нястомна апекуецца, а Бэтлеемская зорка асвячае Ваш шлях.

*Парафіяне з Доцішкаў*

**Паважаным Ксяндзам Пробашчу Юзафу Багдзевічу, Генадзю Дабруку і Сёстрам**

з нагоды свят Божага Нараджэння і Новага года сардэчна жадаем шчасця, здароўя, доўгіх гадоў жыцця, спакойных і ясных дзён у святарскай паслузе, а таксама добразычлівых людзей на жыццёвым шляху. Няхай Бэтлеемская зорка асвячае Ваш шлях, Дзіцятка Езус адорвае любоўю і радасцю, Маці Божая нястомна апекуецца, а Святы Дух апраменьвае сваім святлом і шчодра ўдзяляе свае дары. Сардэчна дзякуем за цудоўна падрыхтаванае і праведзенае свята 550-годдзя парафіі.

*Вернікі з парафіі свв. Космы і Дам'яна ў Астраўцы*

**Паважанаму Ксяндзу Пробашчу Аляксандру Лебядзевічу і Сястры Зоф'і Смятанцы**

з нагоды свят Божага Нараджэння і Новага года жадаем блаславення ад Дзіцятка Езус, шмат ясных, спакойных дзён і добрага здароўя на доўгія гады. Няхай Збаўца свету адганяе смутак і турботы, напаўняе сэрца радасцю і надзеяй на лепшае заўтра ды зберажэ ад няшчасця. Дзякуем за нялёгкую працу ў нашай парафіі, любоў і цярплівасць да нас і дзяцей.

*Касцёльны камітэт, Кола Жывога Ружанца, дзеці, моладзь і парафіяне з Жамыслаўля*

**Паважанаму Ксяндзу Віктару Субелю, Сёстрам Агнешцы і Ганне, Кансэкраваным Удовам Сабіне і Зоф'і**

з нагоды свят Божага Нараджэння і Новага года жадаем здароўя на доўгія гады, Божага блаславення, апекі Панны Марыі, спакойных дзён жыцця. Няхай Бэтлеемская зорка асвячае Ваш шлях, а добры Бог дапамагае рэалізаваць усе намеры і адорвае шчасцем. Дзякуем за Вашы шчырыя сэрцы, адданую паслугу Богу і людзям, клопат аб святыні.

*Касцёльны камітэт, Кола Жывога Ружанца МБ Балесная з Гіравічаў, парафіяне з касцёла Святой Тройцы ў Сурвілішках*

**Паважанаму Ксяндзу Юрыю Павайбу**

з нагоды Дня нараджэння ад усяго сэрца жадаем моцнага здароўя, шчодрых дароў Святога Духа, сілы, стойкасці і нязгаснага запалу ў абвяшчэнні Божага слова. Няхай кожны дзень будзе напоўнены любоўю Усемагутнага, выконваемая праца прыносіць радасць і блаславёны плён, а Найсвяцейшая Панна Марыя нястомна Вамі апекуецца.

*Парафіяльная рада з Сапоцкіна і сям'я Касцюшкаў*

**Паважаным Сёстрам Эўхарыі, Гарэцці, Серафіме, Паўле, Юліце, а таксама Ксяндзу Пробашчу Антонію Абухоўскаму, Юрыю Павайбу, Юрыю Свіслоцкаму і Юрыю Марціновічу**

з нагоды Свят Божага Нараджэння і Новага года перасылаем самыя сардэчныя пажаданні: моцнага здароўя, душэўнага супакою, шмат радасці, усіх Божых ласкаў, добрых і зычлівых людзей на жыццёвым шляху. Няхай нованароджаны Хрыстос блаславіць і ахоўвае Вас, а Маці Божая ахінае сваёй ласкай і апекай.

*Парафіяльная рада з Сапоцкіна і сям'я Касцюшкаў*

**Паважанаму Ксяндзу Пробашчу Валерыю Спірыдону**

з нагоды свят Божага Нараджэння і Новага года складаем сардэчныя пажаданні: моцнага здароўя, добразычлівых людзей побач, шчодрага плёну ў працы на ніве Пана, а таксама Божай дапамогі на нялёгкім святарскім шляху і апекі Найсвяцейшай Панны Марыі на кожны дзень.

*Вернікі з капліц Вердамічы і Бортнікі*

**Паважаным Ксяндзам Юрыю Канапельку і Андрэю Пышынскаму**

з нагоды свят Божага Нараджэння і Новага года жадаем шчодрых Божых ласкаў, моцнага здароўя, сілы і стойкасці на святарскім шляху, штодзённай радасці, душэўнага супакою, моцнай веры, непахіснай надзеі і палымянай любові ў сэрцы. Няхай Езус будзе Вашым Сябрам, Святы Дух асвячае кожны Ваш дзень, а Маці Божая прытуляе да свайго сэрца і дадае сіл у служэнні Богу і людзям.

*Былыя парафіяне з капліц Вердамічы і Бортнікі*

**Паважанаму Ксяндзу Андрэю Кеўлюку**

з нагоды Імянін, Дня нараджэння і свят Божага Нараджэння складаем самыя сардэчныя пажаданні: моцнага здароўя, шчасця, доўгіх гадоў жыцця, добрых людзей побач, Божага блаславення і міласэрнасці, а таксама ўсіх дароў Святога Духа. Няхай святло Бэтлеемскай зоркі асвячае Ваш шлях, Дзіцятка Езус і Яго Маці апекуюцца Вамі ў складанай святарскай працы, а новы год прынясе толькі радасныя хвіліны.

*Былыя парафіяне скрыбаўскай парафіі*

**Паважанаму Ксяндзу Уладзіміру Аксенцьеву**

з нагоды надыходзячых свят Божага Нараджэння і Новага года складаем мноства сардэчных пажаданняў: здароўя, поспехаў, сіл, радасці, апекі Маці Божай і ўсіх дароў Святога Духа. Няхай нованароджаны Езус адорыць Вас шчасцем і блаславеннем.

*Вернікі з в. Еўлашы лядскай парафіі*

**Паважанаму Ксяндзу Аляксандру Адамовічу**

з нагоды свят Божага Нараджэння і Новага года жадаем штодзённай радасці, шчасця, моцнага здароўя на доўгія гады і зычлівых людзей побач. Няхай Дзіцятка Езус адорвае Вас супакоем і любоўю, а Найсвяцейшая Панна Марыя падтрымлівае ў душпастырскай працы і дапамагае ў цяжкасцях, а кожны Ваш дзень будзе ясны, як свята. Дзякуем за абвяшчэнне Божага слова і прыклад шчырай веры.

*Парафіяне з в. Гінэлі, парафія Нача*

**Паважаным Ксяндзам Тадэвушу Качану і Дзмітрыю Сядлецкаму**

з нагоды надыходзячых свят Божага Нараджэння і Новага года прагнем скласці сардэчныя пажаданні. Дзякуючы за працу і адданасць, жадаем, каб Хрыстос узбагаціў Вашы сэрцы сваёй ласкай, адарыў здароўем і блаславеннем.

*Парафіяне з Канвелішкаў*

**Паважанаму Ксяндзу Пробашчу Ігару Анісімаву**

з нагоды свят Раства Хрыстова і Новага Года сардэчна жадаем апекі Маці Божай і шчодрых дароў Святога Духа. Няхай добры Бог асвячае дарогу Вашага жыцця, узмацняе розум і сэрца, каб Слова, якое выходзіць з Вашых вуснаў, станавілася агнём святла і моцай нашай веры. Няхай Цела і Кроў Збаўцы так моцна злучаць Вас з Богам, каб ніколі не аддаліліся ад Яго, а наша гарачая і сардэчная малітва хай будзе для Вас падтрымкай у рэалізацыі ўсіх планаў і намераў на ніве Пана і ў Вашым жыцці.

*Парафіяне з касцёла Беззаганнага Зачацця НПМ у Слоніме*

**Паважанаму Ксяндзу Пробашчу Яну Кучынскаму**

з нагоды свят Божага Нараджэння і Новага года жадаем мноства радасных хвілін. Няхай дар Бэтлеемскай ночы напоўніць Ваша сэрца супакоем і радасцю, а Божая моц спадарожнічае на працягу ўсяго жыцця. Ад шчырага сэрца дзякуем за ахвярную працу, намаганні і цудоўныя казанні. Няхай Святы Дух акружае Вас сваім святлом і адорвае патрэбнымі дарамі!

*Парафіянкі з гродзенскай катэдры*

**Паважанаму Ксяндзу Міхалу Васількевічу**

з нагоды свят Божага Нараджэння жадаем моцнага здароўя, поспехаў, зычлівых людзей на святарскім шляху, дароў Святога Духа, сталай апекі Маці Божай і шчаслівага Новага 2019 года.

*Апостальства "Маргарытка" з парафіі св. Вацлава ў Ваўкавыску*

працяг віншаванняў на с. 8

# Ад шчырага сэрца

**Паважаным Ксяндзам Дзмітрыю Сядлецкаму і Тадэвушу Качану**

з нагоды свят Божага Нараджэння і Новага года складаем самыя сардэчныя пажаданні: добрага здароўя на доўгія гады, цярплівасці, стойкасці, радасці, зычлівых людзей побач і шчодрага плёну ў душпастырскай паслузе. Няхай Святы Дух нястомна ўзмацняе Вас сваімі дарамі, Маці Божая прытуляе да свайго сэрца, а Бэтлеемская зорка асвячае жыццёвы шлях. Ад усяго сэрца дзякуем за прыгожыя казанні і добрыя парады.

*Парафіяне з вёсак Навіянка і Пашэлі*

**Праважаным Ксяндзам Пробашчу Уладзіміру Гуляю, Віталію Сідорку, Дзянісу Бразінскаму, Станіславу Краўчанку, Эрнэсту Мікалайчыку, а таксама Сёстрам Галіне Занеўскай, Юзэфе Канаевай, Назарыі Міклаш**

з нагоды свят Божага Нараджэння і Новага года перасылаем шчырыя пажаданні. Няхай маленькі Езус прытуліць Вас да свайго сэрца і благаславіць, Бэтлеемская зорка вядзе найпрыгажэйшай дарогай да Пана, Найсвяцейшая Маці ахінае апекай, а Святы Дух апраменьвае святлом. Шчыра дзякуем за любоў і цярплівасць да нас. Аддзяч Вам, Божа, за адданую працу ў нашай парафіі, абвяшчэнне Божага слова і добрыя сэрцы!

*Касцёльны камітэт і парафіяне з Ліды-Фары*

**Паважаным Ксяндзу Пробашчу Руслану Мазану і Айцу Андрэю Ядкоўскаму**

з нагоды свят Божага Нараджэння і Новага года складаем сардэчныя пажаданні: здароўя, шчасця, шчодрых Божых ласкаў на святарскім шляху. Няхай нованароджаны Езус вядзе Вас праз жыццё, Святы Дух адорвае мудрасцю і разважлівасцю, а Найсвяцейшая Маці атуляе плашчом мацярынскай апекі. Няхай у новым годзе рэалізуюцца ўсе планы і намеры.

*Парафіяне і Ружанцовае кола св. Яна Непамуцэна са Станевічаў*

**Паважанаму Ксяндзу Аляксандру Баклажцу, а таксама Сёстрам Марыне Сакач, Аўгустыне Белагрывай, Дароце Белагрывай і Аляксандры Станкевіч**

з нагоды свят Божага Нараджэння і Новага года сардэчна жадаем шчодрых ласкаў ад Божага Дзіцяці на кожны дзень. Мы ўдзячны Вам за клопат пра нас і касцёл, за абвяшчэнне Божага слова, любоў і дабрыню Вашых сэрцаў. Няхай добры Бог Вас узнагародзіць, а Панна Марыя мае ў сваёй нястомнай апецы.

*Парафіяне з в. Вейшычы, сем'і Доўкша і Саўко*

**Паважанаму Ксяндзу Яцэку Маркелю**

з нагоды свят Божага Нараджэння і Новага года перасылаем сардэчныя пажаданні: здароўя, доўгіх гадоў жыцця, шчасця, Божага благаслаўлення і апекі Найсвяцейшай Маці.

*Былыя парафіяне з Зэльвы, сем'і Трубей і Раманчук з Гродна*

**Паважаным Ксяндзам Антонію Філіпчыку, Анджэю Ганчару, Віталію Пяткевічу, Дзмітрыю Лечыку, Клерыкам Уладзіславу Малышку і Віталію Гурцу**

з нагоды свят Божага Нараджэння і Новага года жадаем моцнага здароўя, поспехаў і благаслаўлення ад Божага Дзіцятка. Няхай Святы Дух удзяляе Вам шчодрыя дары, а Маці Божая апекуецца і атуляе сваім плашчом.

*Апостальства "Маргарытка" і вернікі з парафіі св. Вацлава ў Ваўкавыску*

**Паважаным Ксяндзу Віктару Субелю, Сёстрам Агнешцы і Ганне, Кансэкраваным Удовам Сабіне і Зоф'і**

з нагоды свят Божага Нараджэння і Новага года сардэчна жадаем моцнага здароўя, душэўнага супакою, стойкасці і цярплівасці. Няхай Дзіцятка Езус прытуляе Вас да свайго сэрца і благаслаўляе, Бэтлеемская зорка вядзе найпрыгажэйшай дарогай да Пана, Найсвяцейшая Маці ахінае апекай, а Святы Дух апраменьвае сваім святлом кожны Ваш дзень. Шчыра дзякуем за прыклад адданага служэння Богу і людзям, чулыя сэрцы, добрыя словы і парады.

*Касцёльны камітэт і вернікі з Трабаў*

**Паважаным Ксяндзам Пробашчу Мар'яну Хамяню і Пятру Вішнеўскаму**

з нагоды свят Божага Нараджэння і Новага года складаем сардэчныя пажаданні. Няхай Бэтлеемская зорка асвячае Ваш святарскі шлях, прыносіць супакой і радасць, а Божае Дзіцятка апраменьвае сваім святлом. Жадаем моцнага здароўя, Божага благаслаўлення, непахіснай надзеі і веры. Шчыра дзякуем за паслугу ў нашай парафіі.

*Вернікі з Шылавічаў*

**Паважаным Ксяндзам Яну Гавэцкаму, Артуру Валчкевічу, Алегу Яновічу, Віталію Цыбульскаму, а таксама Сёстрам Ірэне, Марыі, Зоф'і і Вользе**

з нагоды свят Божага Нараджэння і Новага года жадаем вялікай любові ад маленькага Езуса, моцнага здароўя, нястомнай радасці і апекі Маці Божай. Няхай праца на Божай ніве прыносіць добры плён, а мы абяцаем маліцца за Вас.

*Легіён Марыі і апостальства "Маргарытка" з Іўя*

**Паважаным Ксяндзам Пробашчу Антонію Казлоўскаму і Віктару Субелю**

з нагоды свят Божага Нараджэння і Новага года сардэчна жадаем шчодрых дароў ад Божага Дзіцятка на кожны дзень. Шчыра дзякуем за добрае слова, любоў і адкрытасць Вашых сэрцаў. Няхай добры Бог за ўсё Вас узнагародзіць, а Найсвяцейшая Маці нястомна апекуецца. Няхай святы будуць поўныя радасці і шчасця, а новы год прынясе толькі прыемныя ўражанні.

*Вернікі з в. Малінавая*

**Паважанаму Ксяндзу Яну Сарэлу**

з нагоды свят Божага Нараджэння і Новага года жадаем моцнага здароўя, радасці, шчасця, аптымізму, душэўнага супакою, а таксама благаслаўлення ад Божага Дзіцятка і апекі Найсвяцейшай Панны Марыі. Няхай добры Бог мае Вас у сваёй апецы.

*Люцыя Лабэцкая і Станіслава Сідаровіч з Воўпы*

**Паважаным Ксяндзам Віктару Мыслюку і Леону Лішыку**

з нагоды свят Божага Нараджэння і Новага года складаем найлепшыя пажаданні. Няхай Бог, якому Вы даверыліся, благаслаўляе Вас у кожны дзень святарскай паслугі, а Найсвяцейшая Маці ахінае сваёй апекай. Жадаем моцнага здароўя, душэўнага супакою, радасці, аптымізму, моцнай веры і нязгаснай любові да Бога і бліжніх.

*Ружанцовае кола МБ Нястомнай Дапамогі з Воўпы*

**Паважаным Ксяндзам Паўлу Беланосу і Яраславу Грынашкевічу**

з нагоды свят Божага Нараджэння і Новага года жадаем добрага здароўя, шмат радасці, поспехаў ва ўсіх справах і Божага благаслаўлення на кожны дзень. Няхай нованароджаны Хрыстос узбагаціць любоўю, напоўніць надзеяй і спакоем, вернасцю і міласэрнасцю, умацуе веру, а Бэтлеемская зорка асвеціць шлях да Бога.

*Парафіяне з Макараўцаў*

**Паважанаму Ксяндзу Вячаславу Матукевічу**

з нагоды свят Божага Нараджэння і Новага года жадаем штодзённай радасці, шчасця, моцнага здароўя на доўгія гады жыцця, а таксама добрых і зычлівых людзей побач. Няхай Дзіцятка Езус адорвае Цябе супакоем і любоўю, а Найсвяцейшая Панна Марыя прытуляе да свайго сэрца і дапамагае ў душпастырскай працы.

*Бацькі*

**Паважаным Айцу Вальдэмару Слоту і Сястры Мірыям**

жадаем радасных і шчаслівых свят Божага Нараджэння! Няхай Бэтлеемская зорка заўсёды асвячае Ваш шлях, здароўе будзе моцным, радасць – штодзённай, а вера – непахіснай. Няхай з твару ніколі не сыходзіць усмешка, а ў сэрцы заўсёды палае любоў да Бога і людзей навокал. Няхай Маці Божая  ахіне Вас сваёй апекай, а Дзіцятка Езус нястомна благаслаўляе. Шчыра дзякуем за адданую працу ў нашай святыні, за дабрыню і клопат пра кожнага з нас.

*Парафіяне з касцёла Перамянення Пана ў Вялікай Бераставіцы*

**Паважанаму Ксяндзу Зянону Рамейку**

з нагоды свят Божага Нараджэння і Новага года перасылаем букет найлепшых пажаданняў, спалучаных з малітвай. Жадаем благаслаўлення Дзіцятка Езус, добрага здароўя, радасці, цярплівасці, апекі Святой Сям'і. Няхай Бог заўсёды асвячае і благаслаўляе жыццёвы шлях. Дзякуем за кожнае слова і за ўсмешку на твары.

*Удзячныя парафіяне з Астрыны*

**Паважаным  Ксяндзам Пробашчу  Здзіславу Пікулу, Алегу Жураўскаму, Казіміру Мураву і Аляксандру Пятровічу**

з нагоды надыходзячых свят Божага Нараджэння і Новага года складаем сардэчныя віншаванні. Няхай разам з нованароджаным Езусам у радасці і любові шчаслівa плывуць хвіліны Вашага жыцця, Панна Марыя няспынна Вамі апекуецца, а супакой, як зорка, зазззяе ў сэрцы ясным полымем. Жадаем моцнага здароўя, доўгіх гадоў жыцця, дабрыні, цярплівасці і зычлівых людзей побач.

*Парафіяне з Дзятлава*

**Паважанаму Ксяндзу Яўгену Барысюку**

з нагоды свят Божага Нараджэння і Новага года сардэчна жадаем добрага здароўя на доўгія гады, радасці і душэўнага супакою. Няхай нованароджаны Езус благаслаўляе Вас у складанай і адказнай паслузе, а Маці Божая нястомна апекуецца.

*Вернікі з касцёла св. Андрэя Баболі ў Казловічах і парафіі Святой Сям'і ў Верцялішках*

**Паважаным Ксяндзам Каноніку Здзіславу Вэдэру, Аляксандру Мятліцкаму, Казіміру Мараўскаму, Віктару Захарэўскаму, Юзафу Багдзевічу, Паўлу Раманоўскаму, Алегу Жураўскаму, Сёстрам Марыі Стасевіч, Ірыне Барцэвіч, Вераніцы Блізнюк, Мар'яне Алешчык, Аляксандры Арэшка, Філатэі Ціхановіч, Валянціне Кот, Агаце Смольскай, Клары Волчэк**

з нагоды свят Божага Нараджэння і Новага года складаем сардэчныя пажаданні: здароўя, радасці і шчодрых Божых ласкаў. Няхай Ваша жыццё будзе згодным з воляй і жаданнем Найсвяцейшага Сэрца Езуса, а Найсвяцейшая Маці мае Вас у сваёй апецы і абараняе ад зла.

*Аліцыя і Віталій Воранавы са Смаргоні*

**Паважаным Ксяндзам Пробашчу Станіславу Пацыну, Прэлату Вітольду Лазавіцкаму, Паўлу Раманоўскаму, Андрэю Радзевічу, Яну Раманоўскаму і Паўлу Беланосу**

з нагоды свят Божага Нараджэння і Новага года жадаем усіх Божых ласкаў, здароўя, радасці на кожны дзень, стойкасці ў душпастырскай працы, шчасця і душэўнага супакою. Няхай Дзіцятка Езус благаслаўляе Вас на доўгія гады паслугі Богу і людзям, а Панна Марыя нястомна мае ў сваёй апецы.

*Ружанцовыя колы, апостальства "Маргарытка", члены Апостальства дапамогі чыстцовым душам і парафіяне з Радуні*

**Паважаным Айцам Юрыю Саковічу, Ануфрыю Альховіку, Леанарду Адушкевічу, Братам Уладзіміру Лашуку, Ігару Філіпаву, Сяргею Калюту і Збышку Карповічу**

з нагоды свят Божага Нараджэння і Новага года шчыра жадаем моцнага здароўя, сіл і жыццёвай мудрасці. Няхай нованароджаны Збаўца, які нясе супакой усяму свету, няспынна адорвае Вас сваімі дарамі: радасцю, любоўю, надзеяй, душэўным супакоем, а Маці Божая заўсёды апекуецца Вамі. Мы ўдзячны Богу за Вас.

*Парафіяне з Карэлічаў і Варончы*

**Паважанаму Ксяндзу Пробашчу Паўлу Паўлюкевічу**

з нагоды свят Божага Нараджэння і Новага года жадаем шчырага творчага запалу і Божага благаслаўлення, каб у Вашым сэрцы на ўсіх хапала любові. Няхай Святы Дух натхняе Вас ва ўсіх добрых пачынаннях і нястомным клопаце пра дзяцей Божых, Езус узнагародзіць за малітвы і мудрыя казанні, а Панна Марыя нястомна прытуляе да свайго сэрца з мацярынскай любоўю. Нізкі паклон Вам, вялікая пашана і ўдзячнасць за сумесныя малітвы, дабрыню, цярплівасць і за ўтульнасць нашага касцёла.

*Парафіяне з Граўжышкаў*

**Паважаным Ксяндзам Валерыю Спірыдону, Юрыю Канапельку і Андрэю Пышынскаму**

здаровых, поўных сапраўднай радасці і супакою свят Божага Нараджэння і благаслаўлення ад Божага Дзіцятка ў надыходзячым новым 2019 годзе сардэчна жадаюць вернікі з парафіі Мсцібава

**Паважаным Айцу Пробашчу Валерыю Шэйгерэвічу і Ксяндзу Віталію Манцэвічу**

з нагоды надыходзячых свят Божага Нараджэння і Новага года складаем сардэчныя пажаданні. Няхай нованароджаны Збавіцель благаслаўляе і ўзнагароджвае Вас моцным здароўем ды бясконцай міласэрнасцю, а сэрцы вернікаў напаўняе радасцю і надзеяй на шчаслівыя святочныя дні. Няхай нашы малітвы будуць для Вас падтрымкай, душпастырская паслуга прыносіць задаваленне, здзяйсняюцца ўсе задумкі і планы, а побач будуць добрыя людзі.

*Парафіяне з касцёла св. Францішка Асізскага ў г. Свіслач*

**Паважанаму Ксяндзу Юрыю Жэгарыну**

з нагоды Дня нараджэння, свят Божага Нараджэння і Новага года хочам пажадаць усіх Божых ласкаў, здароўя і радасці на кожны дзень. Дзякуем за мудрыя парады і добрае сэрца. Няхай Дзіцятка Езус Вас благаславіць на далейшыя гады служэння Богу і людзям, а міласэрны Бог аддзячыць за нястомную працу на карысць нашай парафіі.

*Касцёльны камітэт, парафіяне з касцёла св. Міхала Арханёла ў Навагрудку*

**Паважаныя Ксёндз Пробашч Віталій Чурган і Сястра Зоф'я Сметанка!**

З нагоды свят Божага Нараджэння і Новага года шчыра жадаем, каб Езус адарыў Вас моцным здароўем, цярплівасцю, стойкасцю ў адданай службе Богу і людзям, душэўным супакоем і ўсімі патрэбнымі ласкамі. Няхай на дарозе, якую ўказаў Вам Пан, заўсёды будуць побач Езус і Яго Маці, а жывы агонь Святога Духа, які палае ў сэрцы, ніколі не аслабне. Дзякуем за шчырыя малітвы, мудрыя парады, сардэчнасць і цярплівасць да нас.

*Апостальства дапамогі чыстцовым душам з парафіі Перамянення Пана ў Юрацішках*

**Паважанаму Ксяндзу Раману Ялоўчыку**

з нагоды свят Божага Нараджэння і Новага года складаем мноства сардэчных пажаданняў. Няхай жыццё будзе сонечным і радасным, а здароўе – моцным. Няхай Найсвяцейшая Маці ахінае Вас плашчом мацярынскай любові, а Бэтлеемская зорка асвячае святарскі шлях.

*Былыя парафіяне з Навіянкі*

**Паважаным Ксяндзам Пробашчу Дзмітрыю Несцеру, Юрыю Марціновічу і Віктару Савіцкаму**

з нагоды свят Божага Нараджэння і Новага года жадаем здароўя, радасных дзён, людской зычлівасці. Няхай Дзіцятка Езус благаслаўляе, Найсвяцейшая Маці апекуецца, а Бэтлеемская зорка асвячае жыццёвы шлях.

*Ружанцовае кола і вернікі з в. Вінцукі*

**Паважаным Ксяндзу Каноніку Яну Рэйшалю і Сястры Ганне Насевіч**

з нагоды свят Божага Нараджэння і Новага года сардэчна жадаем Божага благаслаўлення, апекі Найсвяцейшай Маці, добрага здароўя на доўгія гады. Няхай кожны дзень будзе сонечным, радасным і шчаслівым.

*Парафіяне з капліцы Ліпічна*

**Паважаным Ксяндзам Пробашчу Яну Радзюку, Тадэвушу Крыштопіку, Паўлу Звяжынскаму, Паўлу Урбану, Сястры Ідаліі і ўсім Святарам, якія працавалі ў нашай парафіі,**

з нагоды свят Божага Нараджэння і Новага года складаем сардэчныя віншаванні. Няхай Дзіцятка Езус адорвае Вас сваімі ласкамі, супакоем, радасцю і любоўю, а Найсвяцейшая Панна Марыя заўсёды Вамі апекуецца. Няхай Бэтлеемская зорка вядзе найпрыгажэйшай сцежкай да Пана, а Ён адорвае сваім бацькоўскім благаслаўленнем, каб Вы надалей маглі будаваць Божае Валадарства на зямлі.

*Вернікі з парафіі св. Юзафа ў Гродне*

**Паважаным Айцам Дзмітрыю Лабкову, Юзафу Гензу, Андрэю Врублеўскаму, Эдуарду Пяцельчыцу, Валерыю Мазюку, Віктару Бохану, Андрэю Ядкоўскаму, Станіславу Станеўскаму, Вальдэмару Слоту**

з нагоды свят Божага Нараджэння і Новага года складаем сардэчныя віншаванні. Няхай нованароджанае Дзіцятка Езус адорвае Вас сваімі ласкамі і благаслаўляе кожны дзень паслугі, Найсвяцейшая Маці заўсёды апекуецца, а святло Святога Духа, якое ззяе ў Вашых сэрцах, ніколі не згасне. Няхай Яны будуць для Вас найбліжэйшымі памочнікамі ў будаванні Божага Валадарства на зямлі.

*Парафіяне, апостальства "Маргарытка", Францішканскі ордэн свецкіх і члены Апостальства дапамогі чыстцовым душам з парафіі Найсвяцейшага Адкупіцеля ў Гродне*

**Паважанаму Ксяндзу Андрэю Горбачу**

з нагоды 20-ай гадавіны святарскіх пасвячэнняў жадаем здароўя, апекі Маці Божай. Няхай Бог Айцец і Дзіцятка Езус благаслаўляюць Цябе ў складанай святарскай паслузе, а святы Заступнік дапамагае ў кожную хвіліну жыцця. Няхай побач будуць зычлівыя людзі, а душпастырская праца прыносіць шчодры плён.

*Мама і ўся сям'я*

**Паважанаму Ксяндзу Андрэю Кеўлюку**

з нагоды 35-годдзя і свят Божага Нараджэння жадаем шчодрых ласкаў ад Езуса, дапамогі і благаслаўлення ва ўсіх добрых справах і пачынаннях. Няхай Пан Бог адорвае Цябе ўсімі дабротамі гэтага свету, каб доўга служыў Богу і людзям.

*Мама і родныя*

працяг віншаванняў у наступным нумары

**Рэдакцыя пакідае за сабой права скарачаць і аб'ядноўваць пажаданні**

Інфармацыйна-рэлігійная газета Гродзенскай дыяцэзіі **Слова Жыцця;** Галоўны рэдактар **кс. Юрый Марціновіч;** Заснавальнік: **Гродзенская рыма-каталіцкая дыяцэзія**; год заснавання **1997**; рэгістр. **№1085**; Выдавец: **курыя Гродзенскай дыяцэзіі**
Рэдакцыя газеты: **230025 Гродна, вул. К. Маркса, 4;** Юрый Лавыш, Ангеліна Пакачайла, Алена Гальчэня; тэл: **(8 0152) 75-64-38**; e-mail: **slowo.grodnensis@gmail.com; http://www.slowo.grodnensis.by.**
Друк: **ГАУПП«Гродзенская друкарня»,** ЛП 02330/39 от 27.03.2014 г. 230025 Гродна, вул. Паліграфістаў, 4;  нумар заказу 6138; тыраж 4945; аб'ём газеты – 2 умоўна друкарскія лісты; Якасць друку адпавядае якасці прадстаўленых дыяпазітываў; цана адвольная